


*Сьвятары, прыхажане, парафіяльная рада царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе і таксама рэдкалегія часопіса «Полацак» віншуюць мітрапаліта Мікалая, Першага ярарха БАПЦ,*

## з 75-годзьдзем зь дня народзінаў.

*Зычым Вам усяго самага памыснага ў жыцьці,*
*у служэньні Богу, Царкве, Народу Беларускаму.*
*Прабывайце ў ласцы Божай, няхай дабраславеньні Яго множаць Вашыя добрыя справы*

# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451





На першай бачынцы вокладкі: Маестатычная пячатка Ягайлы
На другой бачынцы вокладкі: **Юры Калядэнка.** Партрэт мітрапаліта Мікалая
На трэцяй бачынцы вокладкі: Герб «Пагоня» на саргафагу Ягайлы.
На чацьвэртай бачынцы вокладкі: Пячатка Ягайлы да каранацыі
На развароце: Удзельнікі Другой Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі

*Дарагія й любасныя мае Браты і Сёстры!*

***Вітаю Вас, суродзічы Беларусы, вернікі ў Госпада й ратаўніка нашага Ісуса Хрыста.***

***Нам за межамі прыемна сачыць, як уся нашая Праваслаўная сьвятая Беларусь зь вялікім уздымам рыхтуецца і будзе сьвяткаваць 25-27 верасьня сёлета гістарычны юбілей—1000-годзьдзе існаваньня Полацкай япархіі. Гэта Божая наканаванасьць, што наш народ адзначае свае рэлігійныя даты. Мы верым, што з Божай волі у хуткай будучыні закрасуюць Еўфрасіньнеўскія крыжы на нашых сьвятынях па ўсёй Беларусі і што Багаслужбы будуць адбывацца на роднай беларускай мове. Так, мы ў гэтае верым, бо Сам Бог са сваім народам беларускім. І мы, праваслаўныя за межамі Беларусі, з Вамі і духова далучаемся да адзначэньня 1000-годзьдзя Полацкай япархіі, бо-ж мы адзін і той-жа самы народ.***

***Мы просім Усемагутнага Бога памагчы Беларускаму Народу пераадолець усе перашкоды, якія знаходзяцца на шляху да лепшага жыцьця.***

***Ласка і мір, і любасьць няхай множыцца, і дабраславеньне Божае няхай будзе з усім нашым Народам Беларускім.***

*25 жнівеня 1992 г. Таронта, Канада.*

*Пакорны мітрапаліт Мікалай,*
*з Божай волі Першы ярарх БАПЦ.*

Праз часопіс «Полацак» ад імя парафіі Жыровіцкае Божай Маці ў Кліўлендзе, штат Агаё, віншуем Беларусаў на Бацькаўшчыне зь сьвятам 1000-годзьдзя утварэньня Полацкае япархіі, якая паспрыяла пашырэньню й умацаваньню праваслаўя ў Беларусі.

Няхай гэтае сьвята паслужыць яднаньню ўсіх Беларусаў, як на Бацькаўшчыне, так і за яе межамі.

Няхай Бог багаславіць Беларусь і яе народ!

Настаяцель парафіі
Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе
пратаярэй Міхась Страпко.



*Рэдкалегія часопіса «Полацак» віншуе Беларусаў на Бацькаўшчыне й у Замежжы з тысячагодзьдзем утварэньня ў Полацку праваслаўнай япіскопіі.*

*Стварэньне праваслаўнай япіскопіі паспрыяла разьвіцьцю беларускае культуры, літаратуры, мастацтва, фармаваньню грамадзка-палітычнай думкі і нацыянальнай адметнасьці беларусаў.*

*Памажы, Божа, каб гэтае сьвята дапамагло хутчэйшаму працэсу беларусызацыі Беларускае праваслаўнае царквы.*

*Жыве Беларусь!*



# Прывітаньні ўдзельнікам XX Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі— II Сусьветнай Сустрэчы Беларусаў



Праз наш мілы Полацак горача вітаю ўдзельнікаў дваццатай сустрэчы беларусаў сьвету. Вельмі жадаю іх непарушнай еднасьці ў іхняй сьвятой любові да Маці-роднай зямлі, яе культуры і яе пакутнай гісторыі. Дай Бог усім нам пабачыць здзейсьненьне вялікай мары соцень пакаленьняў беларусаў аб адраджэньні нашага сувэрэнітэту і дзяржаўнасьці ў вялікай дэмакратычнай супольнасьці.

Жыве Беларусь!

Васіль Быкаў.

Менск

# Беларусам у выраі

Праз часопіс „Полацак" вітаю зьлёт
беларускага вырая!
У спакойнай Беларусі самотна без вас.
У знак любові й пашаны прыміце вершы
беларусам у выраі.

З дому гналі маскоўшчыны сівэры
Пры царох,
Род хацелі наш зьвесьці на ветах
Пры саветах.
Нам турму муравалі чырвоныя муляры
У радасных бальшавіцкіх дзяржатах.
- Краі нашае й бралі што маглі
Маскалі,
Смакавалі з пагардай прысмакі
Палякі.
У каго дох гулі
Ашалела гулі,
Мы з хаўтураў бралі, небаракі.
Мы сплаўлялі вякі,
Асначы крывічы,
Мы не зьнікнем на радасьць чужынцам.
Ў завеі,
З вырая думкамі лятучы,
Млечны шлях беларускім гасьцінцам,
Да яго не дацягнуцца каты —
Ім вяртаюцца душы дахаты.

Менск,
1 чэрвеня 1992 г.

Рыгор Барадулін

# Мы пераможам!

З нагоды XX Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі сардэчна вітаю ўсіх удзельнікаў яе і гасьцей. Гэтая Сустрэча традыцыйна зьбірае прадстаўнікоў беларускай грамадзкасьці ня толькі Паўночнай Амэрыкі. У апошнія гады ўсё большую ўвагу да яе праяўляюць і грамадзкія, і культурныя колы Беларусі.

Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі зьяўляецца сымбалем яднаньня Беларусаў за мяжой, сымбалем неўміручага духу патрыятызму, самасьвядомасьці і захаваньня здабытку культурных каштоўнасьцей беларускага народу ў агульначалавечай цывілізацыі.

XX Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбываецца ў час, калі на Бацькаўшчыне лепшыя сыны беларускага народу працягваюць змаганьне за сапраўдную незалежнасьць Рэспублікі Беларусь, за дзейснае, а не фармальнае абвешчаньне ўладамі ужываньне дзяржаўнай беларускай мовы ва ўсіх дзяржаўных установах і грамадзкіх арганізацыях, за вяртаньне нацыянальнага характару гуманітарным навукам у Беларусі і, перш за ўсё, за сапраўдную ачышчальную ад таталітарнага прарасейскага фальшаваньня гістарычнай навукі, за беларусызацыю сярэдняй і вышэйшай школы. Мы адчуваем моцную маральную падтрымку ад Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, а таксама Беларусаў зь іншых краін Замежжа.

Усё больш і больш беларускіх патрыётаў уліваецца ў нашыя шэрагі змагароў за Адраджэньне роднай Беларусі. У гэтай сьвятой справе мы пераможам!

Жыве Беларусь!

Анатоль Грыцкевіч




Анатоль Грыцкевіч,
прафэсар, доктар гістарычных навук,
сябра Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»,
ганаровы сябра клюбу «Спадчына»;

24 ліпеня 1992 г. Менск

Сябры Менскага грамадзка-асьветніцкага клюба «Спадчына» дасылаюць свае шчырыя віншаваньні ўдзельнікам XX Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Жадаем усім Вам духоўнага паяднаньня ў справе нацыянальнага ад-раджэньня і перамогі ў дасягненьні поўнай дзяржаўнай незалежнасьці на любай нашай Бацькаўшчыне.

Ня гледзячы, што год назад наш беларускі народ абвесьціў аб сваёй незалежнасьці і сувэрэнітэце, барацьба за сапраўдны Сувэрэнітэт, Незалежнасьць і Беларускую Дзяржаўнасьць яшчэ не закончылася. Таму ўсе мы, беларускія патрыёты, павінны яднацца ў гэтай барацьбе.

Будзем спадзявацца на тое, што патрыятычным і нацыянальна сьвядомым сілам ўдасца ў рэшце рэшт правесьці рэфэрэндум, новыя выбары ў Вярхоўны Савет і стварыць урад, які будзе абараняць інтарэсы беларускай нацыі, паважаць суайчыньнікаў за межамі Бацькаўшчыны, споўніць мары і надзеі тых, хто загінуў за незалежнасьць і цэласнасьць Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!



Старшыня клюбу «Спадчына»

Анатоль Белы

Дасылаем шчырае віншаваньне зь зямлі далёкай Бацькаўшчыны усім удзельнікам XX Сустрэчы. Жадаем усім братам і сёстрам вялікіх духоўных перамог, глыбокай веры ў нашае нацыянальнае адраджэньне, запрашаем у 1993 годзе адсьвяткаваць 440-я ўгодкі Рэфармацыі ў Беларусі.

Молімся за Вас і ўвесь беларускі народ. Жыве Беларусь і няхай дапаможа нам Бог.

Старшыня Рады Беларускага
эвангелічнага рэфармацкага збору

Лявон Ліпень

Рэдакцыя часопіса «Полацак» віншуе ўсіх беларускіх патрыётаў з юбілейнай, XX Сустрэчай Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Сёньня, калі нашая родная Бацькаўшчына стаіць перад многімі патрабаваньнямі, неабходна як мацьней згуртаваць свае рады. Таму мы спадзяемся, што гэтая сустрэча дапаможа ліквідаваць усе падзелы беларусаў і яшчэ мацьней зьяднае беларускую дыяспару. Таксама вітаем намаганьні беларусаў, што змагаюцца за нацыянальнае адраджэньне нашага народу, палітычны й эканамічны сувэрэнітэт Беларусі.



Кліўлендзкі аддзел Беларуска—Амэрыканскага Жаночага Згуртаваньня шчыра вітае удзельнікаў XX сустрэчы. Мы спадзяемся, што працэс дэмакратызацыі ў Беларусі будзе пашырацца, спрыяючы паляпшэньню эканамічнага дабрабыту й культурнага роськвіту беларускага народу ды ўмацаваньню цясьнейшых сувязяў паміж беларусамі Бацькаўшчыны і Замежжа.



Культурна-асьветніцкі цэнтр «Полацак« жадае ўдзельнікам XX Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі посьпехаў, плённых і цікавых дыскусыяў, канструктыўных пастановаў, якія-б, нарэшце, прывялі да кансалідацыі ўсіх беларускіх арганізацыяў Паўночнай Амэрыкі.



Царкоўны камітэт прыходу Жыровіцкае Божае Маці г. Кліўленда горача вітае XX Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Перадаем найцяплейшыя прывітаньні ўсім, хто прыбыў на гэтую сустрэчу, асабліва тым, хто прыехаў з Бацькаўшчыны. Няхай гэтая сустрэча яшчэ больш сплоціць беларусаў Замежжа і беларусаў Бацькаўшчыны, няхай жыве і красуе, нашая родная Беларусь!

# З гісторыі Сустрэчаў Беларусаў

Міхась Белямук



Група ўдзельнікаў Першай Сустрэчы Беларусаў ЗША і Канады, 1952 г.

Ідэя арганізацыі Сустрэчы Беларусаў узьнікла нечакана, і яе першапачатковая задума была жыцьцёвая і даволі рамантычная. Аднак за вельмі кароткі час гэтая ідэя атрымала новае гучаньне і сёньня набыла палітычнае значэньне для беларускай дыяспары.

Адбывалася-ж усё так.

Міхась Белямук, кіраўнік Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Кліўлендзе, склікаў 29 красавіка 1952 г. паседжаньне камітэту ЗБМ, каб абмеркаваць плян працы на травень. Адна прапанова была: 26-28 травеня адведаць моладзь (дзяўчат) ў Монтрэалі, другая— наведаць сяброў у Нью Ёрку. Так як да адзінага рашэньня у той дзень не прыйшлі, дамовіліся склікаць агульны сход моладзі.

На тым гістарычным сходзе 6 травеня 1952 г., пасля дыскусыі, сябры ЗБМ пастанавілі запрапанаваць моладзі ЗША і Канады спаткацца каля вадаспаду Ніагара й адсьвяткаваць разам народнае сьвята Купальле.

М.Белямук пісьмова і тэлефанічна паведаміў асяродкі беларускае моладзі ў Нью Ёрку, Нью Брансьвіку, Саўт Рывэры, Дэтройце, Чыкага, Рокфардзе, Таронта і Монтрэалі аб спатканьні. Прапанова выклікала вялікую цікавасьць ў моладзі. Пачалася падрыхтоўка да сьвяткаваньня. Старэйшае грамадзтва таксама зацікавілася і пажадала прыняць удзел.

Спачатку мы ў Кліўлендзе ня думалі, што над вадаспадам зьбярэцца столькі людзей. Таксама мы не спадзяваліся, што Сустрэчы стануць рэгулярна адбывацца, праўда, ужо пад кіраўніцтвам БАЗА. Арганізуючы Першую Сустрэчу, мы, кліўлендцы, не марылі, што ў 1990 г. XIX Сустрэча стане па сутнасьці Першай Сусьветнай Сустрэчай Беларусаў, што у ёй прымуць удзел ня толькі беларусы ЗША, Канады, Англіі, Бэльгіі, Францыі, Нямеччыны, Беласточчыны, але і Вільні, Ленінграду, Віцебска, Горадні, Менску, што ўрад Беларусі прышле прывітаньні і падарункі, якія асабіста перадасьць нам шэф беларускай місіі пры ААН, амбасадар Генадзь Бураўкін.

Беларусы Кліўленду маюць чым ганарыцца. Яны былі ініцыятарамі й арганізатарамі Першае Сустрэчы Беларусаў ЗША і Канады ў 1952 годзе. Яны сталі арганізатарамі Першае Сусьветнае Сустрэчы Беларусаў у 1990 годзе.



Група ўдзельнікаў сьвяточнага канцэрта Першай Сусьветнай Сустрэчы Беларусаў, Кліўленд, 1990 г.

# З гісторыі вывучэньня крыжа прэпадобнай Еўфрасіньні

**Юры Штыхаў**

Сярод выдатных твораў прыкладнога мастацтва ўсходніх славян выключнае месца належыць крыжу Еўфрасіньні Полацкай. Бібліяграфія крыжа налічвае дзясяткі прац. Аднак некаторыя пытаньні, якія датычаць старажытнай беларускай сьвятыні застаюцца дыскусыйнымі.

Дакладна ўстаноўлена, што крыж быў зроблены майстрам-залатаром Лазарам Богшам у 1161 годзе паводля заказу прэпадобнай Еўфрасіньні для Спаскай царквы, заснаванага ёй жаночага манастыра, які разьмяшчаўся на правым беразе Палаты ў навакольлі старажытнага Полацка.

Звычайна ў шматлікіх публікацыях рэліквія адносілася да «напрастольных» крыжоў (*Аляксееў Л.В., 1957*). Але была выказана думка, што гэты крыж «узьвіжальны» (*Штыхаў Г.В.—Аўтарэфэрат, 1983, б.45*). Цяпер пасьля дасьледаваньня В.Пуцко (*«Полацак», №4(14), 1992, б.12-17*) з указаньнем шэрагу аналёгіяў такую думку можна лічыць даказанай. Тое, што Еўфрасіньня вырашыла падараваць Спаскай царкве ў Полацку менавіта ўзьвіжальны крыж мае сваё тлумачэньне.

З увядзеньнем хрысьціянства ў Кіеве, Полацку ды іншых гарадах атрымала распаўсюджаньне цалаваньне крыжа для пацьвярджэньня выкананьня князем узятых на сябе абавязкаў. Калі ў Кіеве ў час паўстаньня 1068 г. вялікі князь Ізяслаў Яраславіч вымушаны быў уцячы з горада, а вызваленага імі з турмы князя Ўсяслава Полацкага паўстаўшыя гараджане пасадзілі на трон, сучаснікі лічылі гэтую падзею знамянальнай, бо адбывалася яна ў дзень «Узьвіжаньня Крыжа». Князь Ізяслаў парушыў крыжовае цалаваньне, вераломна захапіў у палон каля Воршы ў 1067 г. Усяслава, якому напярэдадні пад клятвай абяцаў надзейную бясьпеку.

Летапісец адзначыў, што Усяслаў, седзячы ў турме, уздыхнуўшы, сказаў: «О крыж сьвяты! Так я верыў у цябе, ты і пазбавіў мяне ад гэтай ямы». Бог-жа паказаў сілу крыжа. Крыж князям у бітвах дапамагае, веруючыя людзі перамагаюць ворагаў-супастатаў, крыж хутка пазбаўляе ад бяды тых, хто зьвяртаецца да яго зь вераю. Нічога не баяцца д'яблы, толькі крыжа. Такія хрысьціянскія перакананьні выказвае летапісец у сувязі зь лёсам полацкага князя, якому дапамагла вера ў сьвяты крыж. У Радзівілаўскім летапісу ёсьць мініяцюра, дзе паказаны князь Усяслаў на кіеўскім троне, у выніку перамогі крыжа над д'яблам, так гаворыць летапісец. Еўфрасіньня, унучка Ўсяслава, ведала пра гэтую нязвычайную падзею ў княскім родзе, да якога нележала, і прысьвяціла памяці аб ёй узьвіжальны крыж.

«Узьвіжаньне Крыжа», якое адзначаецца праваслаўнай царквой 14 верасьня па старому стылю — важнае сьвята, сымбаль хрысьціянскай веры. Паводля сцьвярджэньняў царкоўных гісторыкаў у IУ ст.

рымскаму імпэратару Канстантыну перад рашаючай бітвай зьявіўся на небе крыж з надпісам: «Гэтым перамагай». Канстантын сапраўды атрымаў перамогу і з тае пары пачаў верыць у цудадзейную сілу крыжа. Маці Канстантына, Алене, удалося ў Палестыне, на Галгофе, знайсьці крыж, на якім расьпялі Хрыста.

Царква адзначае «Узьвіжаньне Крыжа» асабліва сьвяточна. У канун сьвята выносяць упрыгожаны кветкамі крыж і кладуць на сярэдзіне храма. Цырымонія суправаджаецца гучаньнем званоў, мэлядычнымі песнапеньнямі. Затым крыж паказваецца на чатыры бакі прысутным, каб усе маглі яго бачыць. Тое, што ў старажытным Полацку было папулярным сьвята «Узьвіжаньня Крыжа», пацьвярджае знаходка ў 1967 г. ўнікальнага каменнага абразка зь выявай сьв.Канстантына і сьв. Алены, якія трымаюць перад сабой вялізны крыж. Тэма кампазыцыі зьвязана з гэтым хрысьціянскім сьвятам.

Маскоўская дасьледчыца Т.Макарава ў акадэмічным выданьні «Перегордчатые эмали древней Руси» (1975 г.) выказала думку аб вырабе Богшам ды яго вучнямі іншых выдатных твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, дыядэмы з выявай Аляксандра Македонскага, арыгінальнага колта з Галіча. Яна прыйшла да высновы, што Богша быў кіеўскім майстрам, з чым згадзіліся іншыя дасьледчыкі. Аднак такая выснова вельмі спрэчная.

Богша мог зрабіць крыж толькі ў Полацку пад наглядам самой заказчыцы Еўфрасіньні. Тут ён павінен быў мець сваю добра абстаўленую майстэрню, вучняў ці іншых памочнікаў. Выраб перагародкавых эмаляў —справа надзвычай працаёмкая. На вонкавым баку рэлíквіі зьмешчана 12 выяваў сьвятых, каля 40 дэталяў арнамэнтаў, на тыльным баку 8 сьвятых і 60 арнамэнтаваных фігур.

Пры раскопках на Верхнім замку ў Полацку ў 1962 г. былі знойдзены прыкметы майстэрні залатара другой паловы XII - пачатку XIII ст., які выробляў надзвычай каштоўныя рэчы. Выяўленыя кавалкі залатой фальгі і фрагмэнт сапраўднай перагародкавай эмалі (памерам 0,8 на 0,8 см), на якім зьмешчана 8 выяваў крыжыкаў (гл. «Старажытныя скрабы Беларусі», 1971 г., мал. УІІ). Верагодна, выраб разламаўся, калі майстар ці яго вучань завяршаў апошнюю апэрацыю—шліфаваў паверхню. Выключна рэдкая ў археалягічнай практыцы знаходка дае ўяўленьне аб тэхнічных прыёмах прыгатаваньня эмаляў. На залатой пласьцінцы напайваліся контуры фігур з танюсенькіх палосак золата, вышынёй да аднаго міліметра. Так утвараліся перагародкі памерам часам з макавае зернятка. У ячэйку насыпаўся эмалевы парашок розных колераў і ўсю пласьцінку ставілі ў жароўню. З золатам трывала злучалася расплаўленая шклападобная маса. Пасьля зацьвярдзелы сплаў шкла розных колераў шліфавалі, каб атрымалася бліскучая цьвёрдая паверхня. Эмаль мела тры яркія колеры: сіні, белы, чырвоны. Менавіта такія колеры зьяўляюцца асноўнымі на эмалях крыжа, дзе ў меншай колькасьці прысутнічаў яшчэ зялёны колер. У апісанай тэхніцы, трэба меркаваць, зроблены эмалі крыжа Еўфрасіньні Полацкай. Недастаткова пераканаўча сьвярджаць, што ў 1962 г. было раскапана месца, дзе знаходзілася майстэрня самога Лазара Богшы, але такая версія не выключаецца.

Эскіз крыжа, напэўна, прапанавала сама Еўфрасіньня, невыпадкова тое, што разьмяшчэньне выяваў сьвятых тут мае свае асаблівасьці. У ніжняй частцы зьмешчаны

выявы сьвятых — патронаў сябраў княскай сям'і: Еўфрасіньні, яе бацькі Георгія і маці Сафіі.

Дзякуючы дасьледаваньням В.Пуцко, устаноўленая распаўсюджанасьць у Полацку іканаграфічнага тыпу Багамацеры, які вызначаецца як Агіасарытысы або Халкапратыйскай (*«Полацак», 1991. № 8*). Выява Божай маці на крыжы Еўфрасіньні адпавядае гэтаму тыпу, толькі тут абразок зьмешчаны ў складзе Дэісуса.

У дэкоры крыжа Еўфрасіньні Полацкай значнае месца належыць арнамэнтальным разеткам, контуры якіх уяўляюць сабой кветку з 8 пялёсткамі. Такі матыў салярнай арнамэнтыкі быў значна распаўсюджаны ў старажытным Полацку, пра што сьведчаць архэолягічныя знаходкі і, асабліва, каменных форм для адліўкі жаночых упрыгожаньняў. (*Штыхаў Г.В.1975*). Буйны знаўца старажытных эмаляў М.Кандакоў лічыў, што не толькімошчы сьвятых, але і некаторыя бляшкі й эмалі крыжа Еўфрасіньні прывезены з Бізанты. Сапраўды, напэўна, ня ўсе дэталі зробленыя Лазарам Богшам. Пра гэта можна меркаваць паводля пласьцін на перакрыжаваньнях тыльнага боку рэліквіі, куды ўманціраваны прамавугольныя эмалевыя бляшкі. У крыж устаўлены 8 каштоўных камянёў, якія, магчыма, зьняты зь іншых састарэўшых рэчаў. Крыж мае з вонкавага боку прымацаваныя дадаткова па ўсяму пэрыметру вузкія залатыя пласьцінкі, упрыгожаныя жэмчугам і зерню. Яны стваралі ўражаньне маналітнасьці рэліквіі і рабіліся спэцыяльна для крыжа Богшам, які ўдала скампанаваў увесь выраб. Спэцыяліст у галіне гісторыі дэкаратыўнапрыкладнога мастацтва В.Васіленка прыйшоў да высновы (1977 г.), што крыж прэпадобнай Еўфрасіньні «некалькі адрозьніваецца ад кіеўскіх эмаляў, прадстаўляючы полацкую эмалевую школу», з чым варта пагадзіцца. Сапраўды, у Полацку існавала свая школа эмалераў.

На бакавых срэбраных пазалочаных пласьцінах крыжа зьмешчаны надпіс, які ідзе па спіралі (шырынёй 1,4-1,6 см) у два радкі. Паводля думкі беларускага мовазнаццы Л.Шакуна, блізасьць мовы помніка да жывой народнай гаворкі выяўляецца ў тым, што тут адлюстраваліся і некаторыя мясцовыя рысы (1963 г.) Характэрнымі зьяўляюцца для помнікаў старажытных зямель Беларусі форма «пискупь» (япіскап), замена «е» праз «яць» перад складам са зьнікшым рэдуцыраваным галосным, напісаньне «злато», «древо».

Прэпадобная Еўфрасіньня аддавала перавагу рабіць заказы мясцовым полацкім майстрам, што добра вядома на прыкладзе запрашэньня полацкага дойліда Івана будаваць Спаскую царкву, якая мае свае асаблівасьці і сьведчыць пра адметныя рысы ў манумэнтальнай архітэктуры Полацка. Такія спэцыфічныя адрозьненьні прасочваюцца ў дробнай пластыцы з выявай Агіасарытысы й у шэрагу дэкаратыўных дэталяў крыжа Еўфрасіньні.

З усяго вышэй сказанага вынікае, што Лазар Богша зьяўляецца полацкім майстрам-залатаром і эмальерам вельмі высокага ўзроўню, і месцам яго пастаяннага жыхарства быў Полацак.



# Храм сьв. Міхаіла зь Віцебску

Лявон Калядзінскі

Узьвядзеньне ў Віцебску першых каменных храмаў мясцовы летапіс прыпісвае княгіне Вользе: «Вымуравала на Верхнем Замку царкву сьв.Міхаіла, а на Ніжнім—Дабравешчаньня».[1] На думку вядомага дасьледчыка ўсходнеславянскай архітэктуры XI—XIII стст. прафэсара П.Раппапорта, царква Дабравешчаньня магла быць збудавана ў 30-40 гг. XII ст.[2] Аб царкве-ж сьв. Міхаіла акрамя кароткага паведамленьня ў летапісу ніякіх зьвестак амаль што няма.

Так, у 1895-1896 гг. у час раскопак, што паводзіў на Замкавай гары славуты дасьледчык віцебскіх старажытнасьцей, прафэсар А.Сапуноў, былі выяўлены рэшткі падмурка, ніжні паверх будынка, каменныя прыступкі і падлога, выкладзеная керамічнаю пліткаю і камянём. У 1964 г. у часе земляных работ аматарам віцебскіх старажытнасьцей, дацэнтам М.Рыўкіным была прасочана кладка з плінфы на вапняковай рашчыне. Вапняковыя пліты, плінфа, керамічныя пліткі падлогі, смальта, ваконнае шкло і фрагмэнты пакрыцьця купала храма былі сабраны ў раскопах, што праводзілі на Верхнем замку Віцебска ў 1978-1988 гг. археолягі М.Ткачоў і Л.Калядзінскі.

Плінфа мела таўшчыню 3.7 см і была блізкая ў плане да квадрату. Вапняковыя пліты мелі сьцясаныя верх і ніз, а бакі іх захоўвалі свой натуральны выгляд. Пліткі падлогі па форме сустрэты стралападобныя з рамбічным завяршэньнем, даўжынёю каля 12 см і трохкутныя, з даўжынёю бакоў 7,5 см. Зьверху гэтыя пліткі былі пакрытыя паліваю яркажоўтага і травяніста-зялёнага колеру. Цікава, што прамых аналягаў віцебскім пліткам ў храмах Русі XII—XIII ст. невядома.



*Пліткі падлогі храма сьв.Міхаіла.*

Ваконнае шкло зеленаватага колеру мела круглы абрыс і было таўшчынёю каля 1 мм. Па сваяму хімічнаму складу яно паходзіць хутчэй за ўсё з Германіі. Смальта—кубік з празрыстага бясколернага шкла памерамі 9х8х8,5, вагою 1,1г, пакрыты зьверху пазалотаю. Па хімічнаму складу яна мае аналягі сярод бізантыйскіх узораў. У X-XI стст. такая смальта ўжывалася ў храмах для дэкору алтароў. Фрагмэнты купальнага пакрыцьця ад храма ўяўлялі сабою кавалкі волава-цынавага сплаву. На падставе гэтых сьведак можна хаця-б схэматычна ўявіць аблічча віцебскага храма сьв. Міхаіла.

Віцебскі храм сьв. Міхаіла быў збудаваны ў тэхніцы зьмешанай муроўцы (плінфа і вапняковыя пліты). Падлога царквы ўяўляла сабою маляўнічаю кампазыцыю з жоўтых і зялёных палосаў у аблямоўцы зубчатага шляху з плітак такога-ж колеру, але трохкутнай формы. Алтар храма быў аздоблены залачонаю мазаікаю. Праз круглыя шыбы ў памяшканьне храма струмяніліся

праменьні зеленаватага сьвятла, граючы на жоўта-зялёных стужках падлогі і залачоным фоне алтара. Цьмяна-шэры купал храма кантрасьціраваў на блакіце віцебскага неба зь бела-чырвона-белымі радамі плінфы і вапняковых плітаў. Больш дакладна ўявіць аблічча гэтага храма сёньня немагчыма. Але ня выключана, што ў агульных рысах ён нагадваў некаторыя храмы Чарнігава таго часу, дойліды якога, на думку дасьледчыка старадаўняй беларускай архітэктуры А. Трусава, зрабілі пэўны ўплыў на фармаваньне полацка-віцебскай архітэктурнай школы.[3]

Зь якой нагоды быў збудаваны храм сьв. Міхаіла? Вядома, што кожны ўдзельны князь імкнуўся ўзьвесьці свой патранальны храм. Такім храмам найчасьцей зьяўляўся храм у гонар сьв.Міхаіла, памочніка князёў у ратных справах. У Віцебску была князкае дворышча, пра якое згадваецца ў пісьмовых крыніцах XIII ст. Найбольш спрыяльнае месца пад яго было-б на Замкавай гары, якая разьмяшчалася на дзядзінцы старажытнага Віцебска, дзе і былі выяўлены рэшткі гэтага храма. Разьмешчаны на Замкавай гары, што ўзвышалася над навакольлем на 9-10 м, храм сьв. Міхаіла служыў дамінантаю віцебскага дзядзінца, разам з цэрквамі сьв. Пятніцы і Дабравешчаньня, узьведзенымі троху пазьней за яго ў вакольным горадзе, яны вызначалі сілуэт Віцебска сярэдзіны XII—XIII стст.

Калі быў збудаваны віцебскі храм сьв. Міхаіла? Архэолягічныя дадзеныя сьведчаць пра канец XI—перш. палову XII стст. Але на мяжы X-XI стст. усталёўваецца Полацкая епархія, у склад якой уваходзіў і Віцебск, што прадугледжвала мець яму свой уласны прыход. Прыкладана ў гэты-ж час Віцебск вылучаецца ва ўдзельнае княства і дастаецца аднаму з малодшых сыноў Усяслава Брачыславіча, хутчэй за ўсё Сьвятаславу, які ў 1129 г. разам з братамі быў сасланы ў Бізантыю. Улічваючы гэтыя абставіны, можна меркаваць, што будаўніцтва храма сьв. Міхаіла адбылося да гэтых падзеяў і прыпадае на першую чвэрць XII стст.

Храм быў разбураны ў сярэдзіне —другой палове XIУ стст. Гэта магло адбыцца ў час пажару 1335 г., адзначанага ў летапісу і прасочанага архэолягічна, альбо ў час аблогі Віцебска ў 1396 г. войскамі Вітаўта. У храме мелася выява князя Альгерда і княгіні Ўльляны. Відарыс царквы сьв. Міхаіла ў другой палове ХУII ст. ёсьць на пляне месца Віцебска 1664 г. Гэта двухкамерны зруб з ганкам і званіцаю ў выглядзе чатырохкутнай вежы.



Сёлета, калі спаўняецца 1000 гадоў утварэньня Полацкай епархіі, для абуджэньня духоўнасьці і захаваньня гістарычнай памяці было-б добра ўшанаваць гэтае сьвятое месца ў Віцебску, устанавіўшы на месцы былога храма сьв. Міхаіла капліцу.

### Бібліяграфія

1.ПСРЛ, М., 1975, т. 32. Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца. Летописи Баркулабовская, Аверки и Панцырного. Л., 1,

2. Раппапорт П.А. Церковь Благовещания в Витебске. Памятники культуры. Новые открытия, М., 1987, с. 522-528.

3.Трусов О.А; Сравнительный анализ техники Черниговского, Полоцкого (Витебского), Гродненского монументального зодчества. Проблемы археологии Южной Руси, К., 1988, с. 66-69.



# НАША ГІСТОРЫЯ



## Кароткі нарыс па гісторыі дзяржавы і права ў Беларусі

*Гісторыя дзяржавы і права, як навуковая дысцыпліна, зьяўляецца арганічнай часткай агульнай гісторыі народу, яго культуры. Гэта навука аб жыцьці і дзейнасьці людзей у грамадзтве і дзяржаве. Яна дапамагае бачыць посьпехі і памылкі ў грамадзка-палітычным жыцьці людзей, з асаблівай вастрынёй усьведамляць сваё месца ў ланцугу пакаленьняў, правільна накіроўваць свае паводзіны ў сучаснасьці. Задачай навукі гісторыі дзяржавы і права зьяўляецца вывучэньне гістарычнага ходу падзеяў у іх канкрэтнасьці і храналягічнай пасьлядоўнасьці, выяўленьне асноўных заканамернасьцей разьвіцьця структуры і дзейнасьці органаў дзяжаўнай улады, праваадносінаў грамадзян і г.д.*

*Вывучэньне гісторыі дзяржавы і права беларускага народу неабходна для ўсьведамленьня свайго нацыянальнага сьветапогляду, вызначэньня месца сярод народаў сьвету. Усе славянскія народы ўжо даўно маюць распрацаваныя гісторыі сваіх дзяржаваў, пачынаючы з самых даўніх часоў. Ніхто з дасьледчыкаў не аспрэчвае неабходнасьці вывучэньня гісторыі дзяржавы і права кожнага народу паасобку. Аднак толькі для беларускага народу рабілася выключэньне. Дасьледаваньне яго гісторыі дзяржаўна-палітычнага жыцьця ня толькі не вялося, але нават сьцярджалася, што беларускі народ да 1919 г. ня меў сваёй дзяржаўнасьці і сваёй прававой сыстэмы, нібыта ён няздольны да самастойнага жыцьця і заўсёды жыў пад прыгнётам другіх народаў. Так, аўтары «Гісторыі дзяржавы і права Беларускай ССР», выдадзенай у 1970 г., пісалі: «Белорусский народ до победы Великой Октябрськой социалистической революции не имел своей национальной государственности»[1]. Тое-ж самое пісалася і ў вучэбных дапаможніках па гісторыі Беларусі для школ рэспублікі[2]. Больш таго, гэтая фальсыфікацыя нашай гісторыі была ўзьведзена ў закон і замацавана нават у Канстытуцыі Беларускай ССР 1978 г., дзе сьцярджалася, што «...рабочыя і сяляне Беларусі.. упершыню ў гісторыі здабылі сваю дзяржаўнасьць, утварылі Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку», тым самым адмаўлялася магчымасьць навуковых дасьледаваньняў гісторыі дзяржаўнасьці беларускага народу, прыніжалася яго роля ў разьвіцьці сусьветнай гісторыі. На самой справе беларускі народ меў у мінулым ня менш слаўную і багатую гісторыю дзяржавы і права, нічым ні горшую да іншых народаў. Аднак, каб яе пазнаць, трэба спачатку ўсьвядоміць, як мяняліся імёны нашага народу, як узьніклі дзяржавы на нашай тэрыторыі, як ішоў працэс росту і разьвіцьця гэтых дзяржаваў, як выпрацоўвалася сваё нацыянальнае права. Зразумець усе гэтыя складаныя працэсы фарміраваньня дапаможа праца доктара юрыдычных навук, прафэсара Язэпа Юхо, якую часопіс «Полацак» пачынае друкаваць з гэтага нумару.*

---

1. История государства и права Белорусской ССР. 1917-1986. т.1, Мн., 1970. б.11
2. Абецедарский Л.С., Баранова М.П. Павлова Н.Г. История БССР, Мн., б.146

# Усталяваньне дзяржаўнасьці ўсходніх славян

Язэп Юхо

Сучасны стан археолёгіі, лінгвістыкі і др. гістарычных навук дазваляе лепш пазнаць нашую старажытную гісторыю. Народ, які ў У—ІУ стст. да нашай эры жыў на тэрыторыі паміж рэкамі Дзьвіной і Прыпяцьцю, паміж Бугам і сярэднім Дняпром, займаўся земляробствам, рамяством і хатняй жывёлагадоўляй. Рыбалоўства, паляваньне і бортніцтва былі дапаможным заняткам. Аб тым, што земляробства і рамяство былі асноўным заняткам насельніцтва сьведчаць, як знойдзеныя прылады працы і зброі, зробленыя з жалеза мясцовымі майстрамі, так і посуд для перахоўваньня зерня і само зерня, а таксама іншыя прадметы і старажытная вера ў бога, згодна зь якой людзі абагаўлялі сілы прыроды, маліліся агню і сонцу, прыносілі ахвяры богу маланкі—Перуну, богу жывёлагадоўлі—Велясу й іншым. Асабліва быў у пашане бог сьвятла, цяпла і ўсяго жывога Сварог і яго сын —бог сонца, які называўся Сварожычам, Сьвято-Вітам, Яра-Вітам, Даждь-Богам. Імя Даждьбога ў форме Далібога захавалася ў сучаснай беларускай мове пры клятве —бажбе (Дальбог праўда), а імя Віта ўвайшло ў многія сучасныя асабістыя імёны.

У першых стагодзьдзях нашай эры народы ўсходняй Эўропы ўжо вялі гандлёвыя зносіны ня толькі ўнутры свайго рэгіёна, але і з народамі далёкіх краін, аб чым сьведчаць знаходкі старажытна-рымскіх манэт на тэрыторыі Беларусі. Аб сувязях усходнеэўрапейскіх народаў са старажытным Рымам сьведчыць і аўтар «Слова аб палку Ігаравым», які перыяд ІІІ—ІУ стст. нашай эры назваў Траянавымі вякамі, тым самым гаворачы, што імя рымскага імпэратара Траяна было агульнавядомым і для ўсходнеэўрапейскіх славян. Устойлівыя гандлёвыя адносіны падтрымлівалі славяне і са сваімі суседзямі на ўсходзе, асабліва з волжскімі булгарамі, а прз іх і з краінамі Азіі. Гэтыя сувязі асабліва пашырыліся ў VIII—X стст., аб чым сьведчаць запіскі арабскіх географаў і падарожнікаў, а таксама клады арабскіх манэт, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі.

Наяўнасьць пашавага земляробства, рамеснай вытворчасьці і гандлёва-эканамічных сувязяў у народаў Усходняй Эўропы ў пачатку нашай эры дазваляюць зрабіць вывад аб значным падзеле працы і аб дзяленьні грамадзтва на клясы, што ў сваю чаргу непазьбежна вяло да стварэньня дзяржавы. Сярод гісторыкаў XIX ст. мелі хаджэньне тры тэорыі, пры дапамозе якіх рабіліся спробы вызначыць характар грамадзкага і палітычнага ладу ўсходніх славян да сярэдзіны IX ст. Найбольш распаўсюджанай была тэорыя радавога быту, прыхільнікі якой (Густаў Эверс, Канстанцін Д.Кавелін, Сяргей М.Салаўёў) лічылі, што да прыходу варажскіх князёў славяне жылі радамі, г.зн. саюзамі асоб, зьвязаных паміж сабой адзінствам кроўнага паходжаньня, агульнасьцю радавой уласнасьці, сумеснай самадапамогай пад кіраўніцтвам роданачальніка або заступаючага яго месца старэйшага ў родзе.

Затым па меры разрастаньня радоў, яны аб'ядналіся ў плямёны, якія для навядзеньня парадку і ўтварэньня дзяржаваў у сярэдзіне IX ст. заклікалі да сябе варажскіх князёў. Гэтая тэорыя грунтавалася на біблейскай легендзе аб паходжаньні ўсіх людзей на зямле ад Адама й Эвы і на тэарэтычных поглядах летапісца XII ст. які

лічыў, што да прыходу варагаў славяне жылі радамі.

У сярэдзіне XIXст. атрымала распаўсюджаньне тэорыя абшчыннага быту (Канстанцін С.Аксакаў, Іван Д.Бяляеў, Васіль Н.Ляшкоў), у сілу якой славяне ў пэрыяд да IX ст. жылі абшчынамі, якія складаліся з асобных сем'яў. Па гэтай тэорыі аснову абшчыннага саюза складала не адзінства паходжаньня, а эканамічныя і сацыяльна-грамадзкія інтарэсы. Людзі, што жылі ў абшчыне, сумесна валодалі зямлёй, сумесна абмяркоўвалі і вырашалі ўсе грамадзкія справы, разам клапаціліся аб абароне ад вонкавых нападаў, самі падтрымлівалі парадак унутры абшчыны. Ворганам кіраваньня быў сход сяброў абшчыны і выбраны кіраўнік абшчыны. Прыхільнікі гэтай тэорыі грунтавалі свае меркаваньні на вывучэньні прававых актаў, у якіх яны вышуквалі ўпаміны аб мясцовых ворганах самакіраваньня.

У другой палове XIX ст. атрымала вядомасьць тэорыя задружна-абшчыннага быту, вылучаная Ф.І Леантовічам. Па гэтай тэорыі аснову грамадзкага жыцьця ў старажытнасьці складалі не рады ў іх чыстым выглядзе і не абшчыны, а абшчына сямейная, якая ў паўднёвых славян называлася «за́другай». У такую абшчыну ўваходзілі як асобы, зьвязаныя паміж сабой кроўнай роднасьцю, так і чужакі, аб'яднаныя агульнымі эканамічнымі інтарэсамі.Задругі ў сваю чаргу аб'ядноўваліся ў больш буйныя грамадзкія адзінкі па тэрытарыяльнаму прынцыпу «жупы», воласьці, зямлі. Кіраваньне такой адзінкай ажыцьцяўлялася сходам (сьнем,веча) і выбранай асобай (жупанам, князем, валасьцелем). Тэорыя гэтая грунтавалася на вывучэньні гісторыі паўднёвых славян у XIX ст. Усе гэтыя тэорыі не ўлічвалі разьвіцьця прадукцыйных сіл грамадзтва й яго клясавага расслаеньня. Яны зыходзілі з таго, што дзяржавы ў славянскіх народаў узьнiклі не раней УІІ—IX стст. Некаторыя лічылі нават, што дзяржава ва ўсходніх славян узьнікла яшчэ пазьней, толькі пасьля хрышчэньня Русі. Так В.Нікольскі пісаў: «*гаварыць аб дзяржаве ў паўдзікіх славян-паганцаў, якія яшчэ ў XI—XII стст. дапускалі кроўную помсту (яўны доказ адсутнасьці ня толькі дзяржавы, але нават правільнага грамадзкага жыцьця), больш чым дзіўна*» [1]. Гэтыя й іншыя памылковыя погляды крытыкаваліся ўжо ў канцы XIX ст. віднымі расейскімі гісторыкамі і гісторыкамі права. Разам з тым і да цяперашняга часу няма навуковага абгрунтаваньня часу паходожаньня дзяржаваў ва ўсходніх славян. Так, Б.Д. Грэкаў пісаў: «*зусім ясна, што значна раней IX ст. на Русі высьпелі неабходныя для ўтварэньня дзяржавы перадумовы, якія пасьпелі даць пэўныя вынікі. Аб'яднаньне Ноўгарада і Кіева—гэта толькі важная падзея ў гісторыі Русі, але зусім не пачатковая*».[2] Больш дакладнага часу паходжаньня дзяржаваў ён не называе. С.В.Юшкоў лічыў, што «Паколькі ўсходнія славяне сваімі продкамі мелі скіфасармацкія народы, то, натуральна, што яны павінны былі атрымаць у спадчыну ня толькі матэрыяльную і духоўную культуру, але і грамадзкі, палітычны і прававы лад ад гэтых народаў». [3] З гэтага сьцвярджэньня аўтара можна зрабіць вывад, што дзяржавы ва ўсходніх славян склаліся на рубяжы нашай эры. Але ў іншым месцы гэтай-жа кнігі аўтар лічыць, што нават наяўнасьць дзяржавы ў славянскага народу антаў, якія жылі на велізарнай тэрыторыі ад Дуная да паўночнага Данца і сярэдняга Дона на працягу ІУ—УІ ст., не дазваляе адказаць на пытаньне: калі склаліся дзяржавы ў больш паўночных сусе-

дзяў антаў або нават у тых усходніх славян, якія пад іншымі імёнамі сталі вядомы на гэтай-жа тэрыторыі. Так, ён пісаў: «*вядома, уплыў антаў павінен у той ці іншай ступені адбіцца і на тых плямёнах, якія не ўваходзілі у склад анцкага саюза (дрыгавічы, крывічы, ільменскія славяне, вяцічы), але і зноў ступень гэтага ўплыву і, значыць, узровень грамадзка-эканамічнага разьвіцьця, магчыма, былі іншымі, чым у карэнных антаў або ў суседніх зь імі плямёнаў. Адным словам, паўстае новае пытаньне—пытаньне аб грамадзка-эканамічным і палітычным ладзе ўсходняга славянства з пачатку УІІ ст. да ўтварэньня Кіеўскай дзяржавы*» [4]. Такім чынам, аўтар сам засумняваўся ў выказанай ім думцы і як-бы вярнуўся да меркаваньня, што дзяржавы ў славян ўзьніклі толькі пасьля УІІ ст., бо да гэтага часу ён гаворыць не аб дзяржаўных аб'яднаньнях, а пра плямёны.

Да больш раньняга пэрыяду адносіў утварэньне дзяржаваў ва ўсходніх славян акадэмік Б.А. Рыбакоў. Ён пісаў: «*Паўнакроўнае разьвіцьцё скалацкага грамадзтва ў У—ІІІ стст. да н.э., якое дайшло, мяркуючы па ўсім вядомым нам, да ўзроўню дзяржаўнасьці, было спынена сармацкім нашэсьцем ІІ ст. да н.э. Сарматы рухаліся з усходу, ад нізоўяў Дона і, нарэшце, дасягнулі сярэдняга Дуная. У сярэднім Падняпроўі сарматы зьнішчылі адно з скалаціх царстваў па Цясьміну і моцна пацясьнілі паўночнае царства (Кіеўская археалягічная група), заняўшы вялікае Перапетава поле на поўнач ад р.Рось. Праславянская дзяржаўнасьць сярэдняга Падняпроўя, якая толькі што зарадзілася, зьнікла прыкладна на чатыры стагодзьдзі, аж да складаньня новай спрыяльнай кан'юнктуры*» [5]. Думка аўтара аб тым, што пратаславяне (скалоты) ужо ў У—ІІІ стст. да н.э. дасягнулі «узроўню дзяржаўнасьці» не выклікае пярэчаньня, але нельга згадзіцца з палажэньнем, што «моцна пацясьніўшы паўночную дзяржаву... народжаная праславянская дзяржаўнасьць сярэдняга Падняпроўя зьнікла прыкладна на чатыры стагодзьдзі» ад «пацясьненьня», бо дзяржаўнасьць не зьнікае.

Трэба адзначыць, што ў старой рускай гісторыка-прававой навуцы меліся працы, у якіх даказвалася існаваньне славянскіх дзяржаваў ужо да нашай эры. Так, В.Н.Тацішчаў, пераказваючы Іаакімаўскі летапіс пісаў: «*О князех русских старобытных Нестор монах не добре сведом был, что ся деяло у нас славян во Новеграде, а святитель Иоаким добре сведомый, написал, еже сынове Афетовы и внуки отделишася, и един от князь, Славен з братом Скифом, имея многие войны на востоце, идоша к западу, многи земли о Черном мори и Дунае себе покориша. И от старшего брата прозваша славяне.. Славен князь..иде к полуносчи и град великий созда, во свое имя Славенск нарече... умре Славен князь, а по нем владаху сынове его и внуки много сот лет. И бе князь Вандал, владая славянамі, ходя всюду на север, восток и запад морем и землею, многи земли на вскарй мора повоева и народ дебе покоря.. Он имел три сына: Изобора, Владимира и Стол-посвята. Каждому из них построил по еди-ному граду, и в их имяна нарече.*»[6] Далей Тацішчаў расказвае пра князёў Бурывоя і Гостамысла, пасьля якога ў Ноўгарад быў запрошаны сын дачкі Гостамысла князь Рурык.

Рацыянальнае зерне легенды, выкладзенай у Іаакімаўскім летапісу, заключаецца перш за ўсё у тым, што гісторыя славянскіх народаў і іх дзяжаўнага ладу датычыцца таго-ж часу, што і скіфскага народу, г.зн. УІІІ—УІІ стст. да нашай эры. Гэта

палажэньне Іаакімаўскай легенды пацьвярджаецца сучаснымі археолягічнымі адкрыцьцямі, зробленымі пры раскопцы так званых зміевых валаў на Украіне. Аб наяўнасьці славянскіх дзяржаваў у пэрыяд да нашай эры можна зрабіць вывад з паведамленьняў Герадота аб Гелонах, Будзінах і Неўрах, насельніцтве, што жыло на тэрыторыі сучаснай Украіны і Беларусі. [7] Ёсьць падставы меркаваць, што ўпамінаемыя ў Іаакімаўскім летапісу гарады Славенск і Сталпасьвят былі на тэрыторыі Беларусі[8]. Так, на заходняй Бярэзіне ў Валожынскім раёне ёсьць вёска Славенск і побач зь ёю замкавая гара. Патрэбны археолягічныя раскопкі, якія маглі-б даць адказ аб часе ўзьнікненьня Славенска. Водгаласы старажытнага Сталпасьвята чуваць у назве цяперашняга горада Стоўбцы.

Падобнай думкі прытымліваўся й І. Забелін. Ён пісаў: «Разьвіцьцё нашай краіны было, вядома, перш заўсё земляробчае.., мяркуючы паводля сьведчаньня Герадота, яно было напалову гандлёвае. І пачалося яно, па ўсім верагодна, з тае пары, калі па берагах Чорнага мора зьявіліся грэчаскія калёніі, за 700 і 600 гадоў да Р.Х.»[9]. Апісваючы падзеі больш позняга часу, І. Забелін прыводзіць запіс грэчаскага гісторыка Іаана Ефескага, які пісаў у 584 г. нашай эры наступнае: «*І да цяперашняга дня славяне жывуць, сядзяць і пакояцца ў Рымскіх абласьцях без клопату і страху, рабуючы іх і спусташаючы агнём і мячом. Яны разбагацелі, набылі золата, срэбра, табуны коней і мноства зброі, якой навучыліся валодаць, лепш чым рымляне.*»[10] Той факт, што славяне сілай зброі выбілі ў У—УІІ стст.бізантыйцаў і рымлян з Балканскага паўабтоку, а германцаў з Цэнтральнай Эўропы сьведчыць аб іх шматлікасьці і добрай ваеннай і палітычнай арганізацыі. Аб існаваньні дзяржаваў ва ўсходніх славян са старажытнейшага гістарычнага часу пісаў і М.Дзьяканаў у кнізе «Очерки общественного и государственного строя древней Руси» (Спб. 1910). Ён пісаў: «*У пачатку гісторыі не існуе адзінай рускай дзяржавы. На прасторы эўрапейскай Расіі, і тое далёка ня ўсёй, існуе цэлы шэраг невялікіх дзяржаваў. Летапіс пералічвае шмат якія зь іх: ён упамінае асаблівыя княжэньні ў палян, драўлян, дрыгавічаў, наўгародзкіх славян, палачан, крывічаў і г.д.*». Затым М.Дзьяканаў параўноўвае ўсходне-славянскія дзяржавы зь дзяржавамі Галіі да яе заваяваньня Цэзарам. «*Галія не ўяўляла нацыянальнага цэлага...не было адзінства палітычнага ... На прасторы паміж Пірынеямі і Рэйнам можна налічыць каля 90 дзяржаваў або кожны з народаў утварылі вялікую групу (з насельніцтвам у 50-400 тысяч)... Народы Галіі вялі войны і заключалі мірныя саюзы як паміж сабою, так і з чужаземцамі, як гэта робяць незалежныя дзяржавы... Старажытная Русь ня мае ў гэтых адносінах ніякага выключэньня. І ў ёй назіраецца значная колькасьць невялікіх дзяржаваў, граніцы якіх пастаянна хісталіся.*»[11]

Пры вырашэньні пытаньня аб часе паходжаньня дзяржаваў народаў Усходняй Эўропы неабходна ўлічваць тэарэтычныя асновы навукі аб дзяржаве і вынікі археолягічных дасьледаваньняў. Для таго, каб вызначыць час (пэрыяд) утварэньня дзяржаваў неабходна вызначыць час рэвалюцыйнага перавароту ў грамадзкіх адносінах, які адбыўся ўсьлед за пераваротам у вытворчых адносінах. Такім пераваротам у вытворчых адносінах было выкарыстаньне жалезных прылад працы. Пачатак вытворчасьці і выкарыстаньня жалезных прылад працы на тэрыторыі Беларусі датычыцца УІІ—У стст.да нашай эры. Да гэтага часу,

як відаць, можна аднесьці і разьдзяленьне грамадзтва на клясы, якое пачалося яшчэ пры аддзяленьні земляробства і жывёлагадоўлі. Аб наяўнасьці ва ўсходне-эўрапейскіх народаў (скіфаў, сарматаў, неўраў і інш.) дзяржаваў яшчэ да нашай эры сьведчаць паведамленьні Герадота й іншых старажытных аўтараў.

На рубяжы нашай эры ішоў працэс станаўленьня рабаўладальніцкага ладу й адміраньня абшчынна-патрыярхальнага. Абодва гэтыя ўклады працяглы час суіснавалі і дапаўнялі адзін аднаго. Рабаўладальніцкі лад у нашых народаў ня быў даведзены да яго вышэйшага разьвіцьця. У X ст. нашай эры пачаў хіліцца да заняпаду, пад узьдзеяньнем фэўдальных адносін.

У сувязі з дваістым характарм грамадзкіх адносін і палітычны лад у VIII—IX стст. адлюстроўваў у сябе два элементы. Улада належала князям і «лепшым людзям», а таксама народнаму сходу—вечу-сойму, на якім зьбіраліся ўсе свабодныя домаўласьнікі. Княжацкі пасад займаўся, як правіла, толькі за згоды веча, яно-ж давала сваю згоду і на назначэньне іншых службовых асоб дзяржаўнага кіраваньня. Асобныя невялікія воласьці або ўмацаваныя гарады, замкі кіраваліся выбіраемымі насельніцтвам старцамі або прызначаемымі цэнтральнай адміністрацыяй намесьнікамі. Аб шырокім распаўсюджваньні на тэрыторыі Беларусі ўмацаваных паселішчаў гарадоў-замкаў сьведчыць ананімны Баварскі географ IX ст. Ён пісаў, што ў жыхароў Сьвіўскай зямлі было 325 гарадоў, у Турычан—104 гарады, у Пружан—70 гарадоў, у Бужан—231 горад, шмат гарадоў было ў Жыцічаў, Кукамлян і Нараўлян[12]. Не выклікае сумненьня, што пабудова ўказаных гарадоў была праведзена на працягу многіх стагодзьдзяў пры наяўнасьці дзяржаўнага кіраваньня, якія ажыцьцяўлялі кіраўніцтва будаўніцтвам і нагляд за ўтрыманьнем у належным стане грамадзкіх пабудоваў, такіх як ірвы, сьцены, вежы.

Асноўнымі нормамі паводзін насельніцтва было мясцовае звычаёвае права і правілы, прадпісаныя паганскай рэлігіяй. Паганскія жрацы стварылі для старажытных дзяржаваў неабходную ідэалягічную аснову й аказвалі садзеяньне ў падтрыманьні ў грамадзтве парадкаў, зручных і пажаданых пануючаму клясу, іх функцыі цесна перапляталіся зь дзяржаўнымі, асабліва пры вырашэньні дзяржаўных справаў, пры ажыцьцяўленьні правасудзьдзя, пры выкананьні насельніцтвам агульнадзяжаўных павіннасьцей. Яны пад выглядам рознай варажбы, прадказваньняў і т.п. навязвалі сваю волю вечавым сходам і некаторым асобным службовым асобам.

(Працяг у наступным нумары)

### Бібліяграфія


1. Гамкрелидзе Т.В. Иванов В.В; Индоевропейский язык и индоевропейцы. т.1-2, Тбилиси 1984 г.
2. В.Н. Никольский, О началах наследования в древнейшем русском праве. М. 1859, с. 216.
3. Б.Д.Греков, Киевская Русь. М. 1958, с. 451.
4. С.В.Юшков, Общественно-политический строй и право Киевского государства. М. 1949, с. 44.
5. Там-жа, с. 39
6. Рыбаков Б.А. Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв. М., 1982, с. 30.
7. Татищев В.Н. История Российская, т.1, М.Л.—1961, с. 108.
8. Геродот. История в девяти книгах, Л. 1972, с. 213-218.
9. Забелин И. История русской жизни с древнейших времен. Доисторическое время Руси, М. 1908, с. 363.
10. Там-жа с. 459.
11. Дьяков М. Очерки общественного и государственного строя древней Руси. Изд. 3.СПб, 1910, с. 68-70.
12. Шафарик П.И. Славянские древности, т.II, кн. 1, М., 1849.

# Эмблема на шчыце герба «Пагоня»

Міхась Белямук

У часопісе «Полацак» №8-5(15) сабраныя прыклады распаўсюджанасьці шасьціканцовага крыжа ў Вялікім княстве Літоўскім і ў суседніх княствах, зь якімі ВКЛ мела культурныя, рэлігійныя і палітычныя сувязі. Мы стараліся абмежавацца пэрыядам да 1400 г., бо Ягайла пасьля каранацыі ў 1386 г. зрабіў маестатычную пячатку ( гл.1 б.вокладкі), зьмясьціў рыцара-князя якому на левае плячо паклаў шчыт з шасьціканцовым крыжам. Спалучэньне гэтых двух эмблемаў дало пачатак гербу, які мы называем Пагоняй.

Паводля сьведчаньняў некаторых дасьледчыкаў, кароль Ягайла ўзяў сабе за эмблему вугорскі шасьціканцовы крыж. Ад часу каранацыі Ягайлы мінула 600 гадоў, за гэты пэрыяд вялікая колькасьць помнікаў з шасьціканцовым крыжам загінула або была зьнішчана, зьбераглася маленькая часьцінка. Гэтая часьцінка дазваляе запярэчыць, каб на шчыце гербу «Пагоня» Ягайла зьмясьціў вугорскі шасьціканцовы крыж. Яму не было патрэбы рабіць пошукі ў Вугоршчыне помнікаў з шасьціканцовым крыжом, бо такіх помнікаў было дастаткова ў Вялікім княстве Літоўскім, а крыж ў Полацку прэпадобнае Еўфрасіньні быў найсьвяцейшай рэліквіяй ва ўсходняй Эўропе.

Дасьледчыкі гербаў, манэтаў і пячатак шасьціканцовы крыж называлі патрыяршым крыжам, і мы гэтым тэрмінам карысталіся. Аднак калі мы разважаем і шукаем матываў, чаму Ягайла на маестатычнай пячатцы спалучыў дзьве эмблемы, менавіта зьмясьціў «патрыяршы» крыж на пячатцы, і гэты крыж самастойна выбіваў на польскіх манэтах, што называліся трэцякі з 1393-1408 гг., то прыходзіцца зрабіць папраўку, што да тэрміну «патрыяршы» крыж. Гэтую папраўку зрабілі Ф.Пекасіньскі, М.Гумоўскі ды іншыя, растлумачыўшы, што гэта на пячатках і манэтах ёсьць радавая эмблема дынастыі Ягайлавічаў.



Польскія трэцякі 1393-1408 гг.

Мы згодныя, што для Казімера, Альбрэхта, Аляксандра, Жыгімонта Старога і Жыгімонта Аўгуста эмблема шасьціканцовага крыжа, ўведзеная на пячатку і манэты Ягайлам, сталася дынастычнай эмблемай. Але чаму Ягайла ня ўзяў іншую геральдычную фігуру сабе за эмблему, а ўзяў шасьціканцовы «патрыяршы» крыж?

У Бізантыі на манэтах першы раз зьявіўся шасьціканцовы крыж за Юстыняна II (705-711). Пасьля Юстыняна шасьціканцовы крыж на манэтах і пячатках не сустракаўся на працягу 100 гадоў. Зьявіўся ён ізноў за Тэафіла (829—842) на манэтах. Наступныя бізантыйскія імпэратары чаканяць манэты,

Заканчэньне. Пачатак ў № 8, 1991—5(15), 1992

ня якіх паказаны яны, трымаючыя шасьціканцовы крыж або трымаючыя сфэры, ўвенчаныя шасьціканцовым крыжам. На некаторых манэтах шасьціканцовы крыж займае ўсё поле манэты.




Бізантыйскія манэты імпэратрыцы Тэадоры й імпэратара Міхаіла УІ 1054—1057 гг.

Падчас панаваньня дынастыі Комэнаў (1081-1203) шасьціканцовы крыж быў у вялікай пашане, яго зьмяшчалі на манэтах, пячатках, іконах, ставратэках, у ілюмінацыі рукапісных зборнікаў і абкладах кнігаў царкоўных і сьвецкіх, таксама ў мастацкіх вырабах. Пасьля вызваленьня Бізантыі ад крыжаносцаў Міхалам Палеалогам у 1261 г. не адрадзілася тая пашана да шасьціканцовага крыжа, якая была за Комэнаў. Затое, ва ўсходняй Эўропе, менавіта ў ВКЛ, шасьціканцовы крыж быў у вялікай пашане.

Калі Ягайлу прымусілі прыняць каталіцызм, то не маглі яму дазволіць на пячатках і манэтах зьмяшчаць патрыяршыя крыжы. Паколькі не пратэставалі, то азначае, што Ягайла меў аргумэнт, якога не жадалі аспрэчваць палякі. Такім аргумэнтам магло быць паведамленьне аб параднёнасьці з той галіной полацкай княжай дынастыі, якая мела прэпадобную Еўфрасіньню, а крыж яе ставаў радавой эмблемай.

Мы пісалі, шо ў Вугоршчыне шасьціканцовы крыж быў на манэтах і пячатках, якія нагадваў аб парадненьні зь бізантыйскім домам. Крыж прэпадобнай Еўфрасіньні быў царкоўнай рэліквіяй, гістарычным помнікам і мог выконваць ролю радавой эмблемы. Калі ён такую ролю выконваў, зразумела, што каталіцкая царква і польскія герархі зь сьвецкімі вяльможамі не маглі забараніць Ягайлу выкарыстаньне еўфрасіньнеўскага крыжа на манэтах і пячатках. Ягайла, бяручы за эмблему еўфрасіньнеўскі крыж, падкрэсьліваў дастойнасьць свайго роду праз пародненасьць з полацкай княжай дынастыяй і старажытнасьць дынастыі. У тыя часы было модным на манэтах і пячатках зьмяшчаць гербы дынастыяў, зь якімі парадніліся. Ягайла ня быў вынякам.



*Малюнак Ягайлы ў капліцы сьв.Троіцы ў Любліне.*

У Любліне, у капліцы сьв.Тройцы на паўдзённа-заходняй сьцяне малюнак Ягайлы, ён на левым плячы мае шчыт зь еўфрасіньнеўскім крыжам. У сярэднявеччы на шчыце быў радавы герб. Значыць, што за радавы герб Ягайла ўзяў еўфрасіньнеўскі крыж.

У Кракаве на Вавелі стаіць саркафаг Ягайлы з гербамі. Герб Вялікага княства Літоўскага на двух старанах саркафагу. Адзін паміж гербамі Каралеўства і зямлі добжынскай, другі паміж гербам Вялікай Польшчы і Каралеўства. Не шчыце рыцара-князя еўфрасіньнеўскі крыж.



Пячатка Ягайлы





Пячатка Казімера

Пры дакумэнтах з 1416, 1423, 1426, 1433 гг. захавалася пячатка Ягайлы, якая мае ўверсе над вялікім шчытом малы шчыт з крыжам, у якога папярэчкі роўныя.

Падобную пячатку меў сын Ягайлы Казімер, яна зьбераглася пры дакумэнтах з 1448, 1450, 1451... і 1479 гг. Аднак, разглядаючы польскія дзяржаўныя пячаткі, сустракаем шчыт з крыжам.

На вялікай дзяржаўнай пячатцы Каралеўства, якая перахоўвалася ў канцлера за панаваньня Жыгімонта Старога зьмешчны шчыт з крыжам, папярэчкі сымэтрычна расположаны на вертыкальным стаўбе, але ня роўнай даўжыні.

Дзяржаўная вялікая пячатка Каралеўства за панаваньня Жыгімонта Аўгуста таксама мае шчыт з крыжам, але няроўнасьць папярэчкі больш выразная.



Дзяржаўная пячатка Каралеўства Жыгімонта Старога



Дзяржаўная пячатка Каралеўства Жыгімонта Аўгуста

Дасьледчыкі пячаткаў Ягайлавічаў шчыт з крыжам паясьнялі, што гэта эмблема радавая Ягайлавічаў, але і на маестатычнай пячатцы Сьцяпана Баторага таксама зьмешчаны шчыт з крыжам, папярэчкі выразна няроўнай даўжыні. Каралі Рэчы Паспалітай пасьля Сьцяпана Баторага на сваіх маестатычных пячатках таксама зьмяшчалі шчыт зь еўфрасіньнеўскім крыжам. Гэты крыж захаваўся на польскіх дзяржаўных вялікіх пячатках, калі вымер род Ягайлавічаў.

У беларускім грамадзтве прыходзіцца чытаць артыкулы і чуць гутарку, што крыж на шчыце герба «Пагоня» ёсьць крыжом Ярылы, а Ярыла — паганскі бажок. Калі-б крыж з роўнымі папярэчкамі сымбалізаваў паганскае богства Ярылу, то ці ёсьць магчыма, каб аб гэтым ня ведалі польскія касьцёльныя ярархі? Дапусьцім, што яны былі абыякавыя, але ці крыжакі таксама зрабіліся абыякавымі? На Саборы ў Канстанцы 1415 г. крыжакі выдалі памфлет Яна Фалькенберга супраць Ягайлы. У гэтым памфлеце не зьвінавачваюць Ягайлу, што на пячатках зьмясьціў паганскі сымбаль—крыж Ярылы. Чаму Я.Фалькенберг прамаўчаў?

Такім чынам, можна зрабіць выснову, што крыж на шчыце гербу Пагоня ня ёсьць крыжам Ярылы, нягледзячы на роўнасьць яго папярэчак. Крыж на шчыце герба «Пагоня» і крыж на польскіх дзяржаўных пячатках, таксама на маестатычных ёсьць гербам дынастыі Ягайлавічаў і сьведчаньнем іх параднёнасьці з полацкай княжай дынастыяй. Мы маем падставы казаць, што на шчыце герба «Пагоня» ёсьць еўфрасіньнеўскі крыж.



Маестатычная пячатка Сьцяпана Баторага.

Саркафаг Ягайлы гл. на 3 бачынцы вокладкі.

Пячатка Ягайлы да каранацыі гл. на 4 бачынцы вокладкі.

# Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў

Паўла Урбан

Нельга абыйсьці магнатаў Радзівілаў. Мікалай Радзівіл, пра дароўную грамату якога пойдзе гаворка, быў сынам Радзівіла Осьцікавіча. У 1481 г. Мікалай Радзівіл у якасьці вялікняжага намесьніка быў накіраваны ў Смаленск. Ад 1486г. ён займаў пасады каштэляна Троцкага,намесьніка Наваградзкага, затым намесьніка ў Бельску на Падляшшы. На прыканцы 1491г. Мікалай Радзівіл стаўся Віленскім ваяводам і канцлерам ВКЛ, гэтыя пасады займаўда 1510 г.

Мікалаю Радзівілу (у дароўнай грамаце сам сябе ён называў: Мікалай Радзівілавіч) належалі ў тым часе Кейданы, Жмуйдкі, Упнікі і Дубінкі. Усе яны ляжалі вакол гораду Вількаміру. У сваёй дароўнай грамаце, датавай 15 кастрычнікам 1482 г. Мікалай Радзівіл пацьвярджаў дар сваіх продкаў для парафіяльнага касьцёлу ў родавым маёнтку Ўпнікі і з свайго боку запісваў яшчэ больш маёмасьці, у тым ліку і дзесяціны ўсялякай збажыны. Дык у той ягонай грамаце была, напрыклад, гаворка пра ворную зямлю на чатыры сахі, а таксама пра луг на тры сьцірты сена. Лацінскі моўны выраз «desem pubos mellis» аднолькава тлумачыўся: дзесяць пудоў мёду (№324, с. 381-382). Пра тое, што азначала «саха» воранай зямлі мы ўжо гаварылі. Дарэчы, па тлумачэньні нашыя чытачы могуць зьвярнуцца да цытаванай ужо кнігі Кіма Скурата «Даўнія беларускія меры».[99]

«Сьціртa» — гэта вялікі стог сена, саломы або снапоў збожжа, прызначаны для захаваньня пад адкрытым небам. У разгляданых некаторых іншых дароўных граматах заміж сьцірты называўся «стог» (№№ 152, 303, с. 170-171, 358-359).

Дасюль мы зьвярнулі ўвагу на беларускую тэрміналёгію, якая ўжывалася ў лацінскіх тэкстах ліцьвінамі-магнатамі. З гэтае прычыны могуць зрабіць закід, што маўляў, гэта былі людзі, якія займалі высокія дзяржаўныя пасады і для іх тыя дароўныя граматы маглі пісацца ў Дзяржаўнай канцыляры і ў ВКЛ. Таму варта спыніцца на асобах больш ніжэйшага рангу.

Гэтай асобай ніжэйшага рангу быў, напрыклад, пан Станіслаў Марціновіч з гораду Мерач над Нёманам. Ягоная завяшчальная грамата датавалася 26 верасьня 1479 г., і ў ёй была гаворка пра завяшчаньне маёмасьці для ўласнай жонкі Ганны, а ў выпадку сьмерці абодвух, запісваўся як дар для касьцёлаў у Вільні і ў Мерачы. У грамату Станіслава Марціновіча трапіла гэткая тэрміналёгія: *усё іменіе рушаёнцэ і лезонцэ* (польскі моўны ўплыў для абазначэньня: усю маёмасьць рухомую і нерухомую»), людзей Заслаўскіх *чатыры сьляды... з службаю і з данюю,* рыбны стаў, званы *Верхнім прудам* ( №313, с. 370-371).

Пра дар ворнай зямлі, якую апрацоўвалі двое братоў Радковічаў або *два сьляды,* была таксама гаворка, напрыклад, у дароўнай грамаце пана Якуба Раловіча з Гарадзілава ў вярхоўі нёманскай Бярэзіны.

Дароўная грамата пана Якуба Раловіча была датавая 2 лютым 1443 г., а дар запісваўся для пабудаванага ім у Гарадзілаве парафіяльнага касьцёлу (№174, с. 197 —199).

(Працяг. Пачатак у №1(11)—5(15))

«Дань» (даніна) і «служба» тэрміны зразумелыя, і яны ў тым часе азначалі сялянскія падаткі і выконваньне іх сялянамі, калі яны былі панскімі, а не свабоднымі, усіх іншых паншчынных павіннасьцей. Пад «службай» яшчэ разумелася і пэўная плошча зямлі зь ейнымі ўладальнікамі. Тэрмін «сьлед-сьляды» таксама мог азначаць меру зямлі, зямельную плошчу і сялянскія сем'і, якія яе апрацоўвалі. Напрыклад, калі зямля абшчыннага карыстаньня дзялілася на аднаасобныя гаспадаркі, дык гаварылася, што гэтая зямля дзялілася на «сьляды». Канкрэтна «сьлед» пайшоў ад разьмежаваньня зямлі знакамі ці сошным сьледам.[100]

Захавалася таксама завяшчальная грамата пані Соф'і, удавы нябошчыка пана Аляксея Дылы. Свой маёнтак яны мелі ў Новай Вавёрцы на захад ад Ліды. Грамата была датаваная 8 красавіком 1478 г. і ў ёй рабіўся запіс дару для парафіяльнага касьцёлу, які ў Новай Вавёрцы заснаваў пан Аляксей Дыла. Вось яшчэ тэрміналёгія той завяшчальнай граматы пані Соф'і «*дару ворную зямлю на 40 бочак, два лугі на адну і дзьве сьцірты*» (№ 306, с. 360-361).

Пан Вайдзіла быў уладальнікам маёнтку і мястэчка Ўшакова, якое знаходзілася над ракой Нарачай. У гэтым мястэчку ён заснаваў на свае сродкі каталіцкую парафію і пабудаваў касьцёл. Каб забясьпечыць існаваньне гэтай Ушакоўскай парафіі, пан Вайдзіла і шэраг ягоных сваякоў і напарнікаў ахвярным чынам запісвалі дары для гэтай каталіцкай парафіі. Дароўная грамата пана Вайдзілы датавалася 13 студзенем 1460 году. У пералічэньні дароў у гэтай грамаце названыя: *пяць копаў пшаніцы і тры пуды мёду, ворная зямля на дзьве бочкі* (№232, с. 258-260).

У гэтай грамаце Вайдзілы выступаў таксама пан Радзівіл Ядаговіч, які, праўда, сваё прозьвішча пісаў розна: Ядаговіч і Ядалговіч. Ён жыў якраз у мястэчку Ўшакова, дзе меў свой двор або панскую рэзыдэнцыю. Захаваліся дзьве дароўныя граматы таго пана Радзівіла Ядаговіча-Ядалговіча, хрышчонае імя якога было Сьцяпан, а бацька зваўся Андрушкам. Граматы датаваліся 1483 г. і 30 травенем 1491 г. Як вынікае з гэтых граматаў, пан Радзівіл Ядаговіч быў заможным чалавекам, бо ягоныя двары і зямельныя ўладаньні, паводля гэтых граматаў, знаходзіліся ня толькі на Русі, але яшчэ і на Ашмяншчыне. Двары і зямельныя ўладаньні у граматах пералічваліся пайменна.

У абодвух выпадках свой шчодры дар пан Радзівіл Ягадовіч запісваў для парафіяльнага касьцёу Сьвятога Юрыя ў тым мястэчку Ўшакова. Сярод ягоных дароў названыя гэткія: «*запісваю назаўсёды ворную зямлю на 10 бочак і луг, дзе стаіць пуня: першае поле...каля касьцёлу, дзе знаходзіцца дварэц: другое поле ў Дубровах; трэцяе поле каля сасонкі; чацьвёртае поле паблізу майго двара Седлішча; дзесяціну з усяе збажыны, што вырошчваецца ў маім маёнтку Нарач; дзесяціну хатняй жывёлы і птушкі першароднага ажарэбу з двух маіх двароў, 8 чалавек сялянаў у Сьвіранах з падаткамі і павіннасьцямі*». Тычылася гэта гаспадароў сялянскіх сем'яў.

У дароўнай грамаце, датаванай агульна 1483 г., удакладнялася, якія падаткі належалі з тых сялянскіх сем'яў: *пуд мёду, два бязьмены мёду або тры бязьмены мёду, па два дяклы пшаніцы* (№ 331, с. 387-388). Быў яшчэ і грашовы падатак.

У дароўна-завяшчальнай грамаце, датаванай 30 травеня 1491 г., састарэлы ўжо пан Радзівіл Ядалговіч для таго-ж Ушакоўскага парафіяльнага касьцёлу запісваў чатыры сялянскія сям'і, якія належалі да

панскага двара ў мястэчку Ўшакова і жылі каля ракі Вільлі. Запісваў яшчэ чатыры сялянскія сям'і, а таксама ворную зямлю Седлішча, дзе знаходзіўся стары палац і якая ляжала *подле* дарогі, што праходзіла *міма касьцёлу нашага ад* Гарколы і *да Дубатолкаў.* У парафіяльным Ушакоўскім касьцёле пан Радзівіл Ядаговіч-Ядалговіч пабудаваў на свае сродкі алтар. Адсюль ягоныя шчодрыя дары і просьба: маліцца і памінаць ягоную душу *і на каждым месёнцу мшы Сьвятое Хрыстыны одправоваць* (№ 370, с. 433-434). Апошнюю польскамоўную фразу мог напісаць парафіяльны ксёндз польскага паходжаньня, хоць ён ня згадваўся сярод прысутных сьведкаў.

Тэрмін «бязьмен» таксама азначаў адзінку вагі, прыладу важаньня й адзінку падатковага абкладаньня, напрыклад, мёдам [101].

Мабыць. хопіць прыкладаў ужыцьця беларускай тэрміналёгіі ў тых лацінскамоўных дароўных граматах. Дарэчы, трэба яшчэ ўлічваць мноства сьведкаў, якія заўсёды прысутнічалі пры афармленьні гэтых граматаў або замацоўвалі іх сваімі пячаткамі.

Якую можна зрабіць выснову з усіх гэтых прыкладаў або, больш канкрэтна, на якой мове маглі гутарыць ліцьвіны ў тым ХУ ст.—пакінем гэтую праблему на абмеркаваньне нашым чытачам. Аплачваецца, аднак, прасачыць яшчэ паходжаньне імёнаў нашых ліцьвінаў, бо аднолькава атрымліваюцца цікавыя вынікі.

Літаратар Іван Ласкоў, напрыклад, захапіўся тэорыяй гэтак званага «ўгра-фінскага паходжаньня Літвы» або, прынамсі, угра-фінскага паходжаньня імёнаў ліцьвіноў і «літоўскіх князёў». У яго атрымліваецца, быццам імёны накшталт Сьвякленій, Лясота, Любарт, Жыгімонт, Монтвіл, Нарымонт, Радзівіл і гэтак далей тлумачацца запазычаньнямі з комі-пярмяцкай мовы[102]. Бясспрэчна, ня ўсе могуць мець доступ да старых заходнеэўрапейскіх хронікаў ды й іншых крыніцаў.Тым ня менш, маючы зацікаўленасьць да праблемы паходжаньня імёнаў ліцьвінаў, варта было-б зьвярнуцца хоць-бы да хронікаў Адама Брэменскага, Тытмара Марзэбургскага, Гяльмольда з Бузава або польскага храніста Гала Ананіма і чэшскага Козьмы Пражскага. Ёсьць яшчэ асабліва каштоўная крыніца—публікацыя архіўных дакумэнтаў XII—XIУ стст., датычных пасоўваньня нямецкай каланізацыі паміж рэкамі Лабай (Эльба) і Одрай (Одэр), у Сілезіі, Польшчы і ў Чэхіі, а таксама на паўдні пазьнейшай Аўстрыі.[103]

Найперш спынемся на імёнах Альгерд і Любарт. Кожны з нас ведае, што гэта былі слаўныя сыны вялікага князя Гедыміна. Але паведамляючы пра падзеі 1391 г., калі ў міжусобным змаганьні зь Ягайлам і ягоным братам Скіргайлам, князь Вітаўт меў падтрымку ад крыжакоў, прускі храніст Віганд Магбурскі пісаў, што ў адной з крывавых сутычак пад Вількамірам ці Трокамі быў загінуў герцаг Альгерд з Гогенштайну[104]. Герцагства Гогенштайн знаходзілася ў Заходняй Саксоніі (цяпер: Ніжняя Саксонія).

Пра аднаго з каралёў Англіі на імя Альгерд (Альгард) УIII ст. таксама пісаў аўтар хронікі Ўсходняй Фрызіі. Аўтар гэтай хронікі пад 1422 г. прыгадаў нобіля з Шмаленбургу, які зваўся Любартам.[106] Любарта, які належаў да патрыцыяў г. Мюнстэр, аднолькава прыгадаў іншы хроністапіс, апісваючы падзеі 1417 г.[105] Дарэчы, у Нідэрландах у г.Утрэхт знаходзіўся адзін зь філіялаў Тэўтонскага ордэну крыжакоў. Вось-жа, і ў тым крыжацкім філіяле дзесьці пасьля 1328 г. дзейнічаў магістр Любарт Бол.[107]

Гэтыя прыклады пацьвярджаюць, што гэтакія імёны як Альгерд, Любарт або той-жа Жыгімонт, мелі лучнасьць зь імёнамі англа-саксонска-фрызскага, германскага паходжаньня. Гэта аднак абсалютна не азначае, што паміж носьбітамі гэтых імёнаў мелася нейкая этнічная лучнасьць. Да імёнаў германскага паходжаньня можна залічыць імёны Вітаўт (Вітольд), Уладзімір (Вальдэмар), Рагвалод (Рэгінальд), Рагнеда (Райнільда), Валамір, Гунцэлін і гэтак далей.

Зь імем Любарт пераклікаюцца імёны Любамір, Люб і Любка. Князі на імя Любамір былі ў абадрыдаў і ў чэхаў. Любам называўся князь вільцаў-люцічаў. Ён быў сынам Драгавіта, таксама князя ваяўнічых вільцаў, і загінуў недзе перад 923 г. у змаганьні з абадрыдамі, якіх знаді ячшэ бодрычамі. Той князь Люб меў двух сыноў Мілагаста і Чаладрага. [107] Любкам называўся сын Полацкага князя Войны, а гэты Война ў сваю чаргу быў братам вялікіх князёў Віценя і Гедыміна. Князь Любка загінуў пад Псковам у 1342 г., калі, адлучыўшыся ад войска князёў Альгерда, Кейстута й Андрэя Полацкага, быў наткнуўся з сваімі воямі на старажавы полк рыцараў Лівонскага ордэну. [108]

Можна меркаваць, што імёны Любарт, Люб, Любка і Любамір паходзілі ад аднаго найменнага караля.

Імя Война сустракалася сярод польскіх імёнаў. Пра чэшкага князя Войну пісаў таксама Козьма Пражскі [109] і, здаецца, гэтае імя высноўвалася ад поўнага славянскага імя Войслаў. Напрыклад, Войслаў Дабрыніч згадваўся пад 1220 г. сярод уплывовых баяраў Вялікага Ноўгараду. Войслаў з Всерадзіцы выступаў таксама ў дакумэньце 1343 г. бургамістра Прагі. Дарэчы, чэшскі храніст Козьма Пражскі пісаў пра Гасьцівіта, бацьку князя Баржывоя, згадаў таксама вяльможу Грдоня, сына Янека.[110] Імя Грдонь супадае зь імем князя Гердзеня. Нальшчанскі князь Гердзень дзесьці ад 1264 г. княжыў у Полацку, і загінуў у 1267 г., маючы збройны канфлікт з Ноўгарадам і Псковам.

Але вернемся яшчэ да імя Альгерд. Германскімі паралелямі для гэтага імя маглі быць імёны: Адальгард, Альбэрт, Вільбэрт, Дальбэрт, а зь імёнаў ліцьвіноў—Даўгард. Вынікае, што адпаведнікам для імя Альгерд было чэшскае: Ольдржых.

Для высьвятленьня паходжаньня імя Вітаўт ёсьць канкрэтныя крыніцы. Гэта юрыдычныя акты караля Чэхіі Пшэмысла Атакара I і ягонага сына маркграфа Маравіі Ўладыслава. У гэтых актах, якія былі датаваныя 1213, 1223 і 1234 гг., згадваліся гэткія ўласныя імёны тагачасных чэшка-мараўскіх вяльможаў: Вітка, сын Віткі, Вітаслаў, Зазема й ягоны брат Вітка, Генрых сын Вікты і Вікта, малодшы брат гэтага Генрыка. Пра князя на імя Вітаслаў у Мараўскай дзяржаве пісаў пад 872 г. аўтар Фульдансіх аналаў.[111]

Імя Вікта магло адпавядаць Віктару, а імёны Вітка і Вітаслаў поўнасьцю супадаюць зь імем Вітаўт, бо яшчэ і цяпер Вітаўтаў называюць Віткамі. Дарэчы, у дароўнай грамаце князя Міхала, сына вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча, якая была датаваная 9 ліпенем 1437 г., была гаворка пра сьведкаў на імя Віта Радчынскі і Мікалай Вітанскі.

Для ўласнага імя Вітаўт германскімі адпаведнікамі маглі быць імёны Віта і Вітас (Вітус). Напрыклад, у Фульданскіх аналах пад 878 г. была гаворка пра нейкага Лантбэрта, сына Вітаса, які браў удзел у захопе Рыму, і ў паланеньні Папы Яны УІІІ, а пад 883 г. згадваўся яшчэ Віта, граф Тасканіі.[113]

У князя Вітаўта былі яшчэ браты на імя

Бутаўт і Войдат. Зыходзячы з таго факту, што імя Вітаўт паходзіла ад імя Вітаслаў, можна меркаваць, што адпаведнікам для Войдата было імя Войслаў або Вайдзіла, а для Бутаўта—імя Будзівой, Буйвід, Будзьвід або Бутумер. Дарэчы, у князя абадрыда ў Готшалка (параўнайце з Войшалкам, бо гэтым імем зваўся сын вялікага князя Міндоўга), быў сын на імя Бутуй,[114] якое бліжэй супадае зь імем Бутаўт. Можна адзначыць, што ўласныя імёны з кампанентам «т» сустракаліся ў славянскіх плямёнаў, якія ў УІ ст. пачалі трывожыць Бізантыйскую імпэрыю на Балканах: Барут, Даўрыт, Ардагаст, Парагаст.

Увогуле, імёны з кампанентамі вой, від або віт, мер або мір належалі да імёнаў славянскага паходжаньня. Мы ўжо згадвалі першага, занатавага ў хроніках, князя вільцаў-люцічаў на імя Драгавіт. У старых заходнеэўрапейскіх хроніках была таксама гаворка пра князя балканскіх славенцаў на імя Людавіт. Якраз гэты князь славенцаў Людавіт у 819-823 гг. ставіў супраціў пасоўваньню заваёваў Франкскай імпэрыі ў Заходняй Паноніі. У мазураў таксама былі князі на імя Земавіт. Аднолькава зь першых князёў у Ноўгарадзе, апрача Гастамысла (Гастамыслам зваўся таксама адзін зь першых князёў абадрыдаў; загінуў ён у 844 г.), у летапісах называўся князь Барывой. У тым Вялікім Ноўгарадзе ў XII ст. пасады тысяцкіх і пасаднікаў займалі баяры на імя Судзіла (Судзівой) і Завід: Дзьмітры завідзіц, Завід Дзьмітравіц і Завід Нераveніц.

(Працяг у наступным нумары)

## Бібліяграфія


99 Скурат К.У. Цыт. праца, с. 67-68, 85-86.

100 Там-жа, с. 36-37.

101 Там-жа, с. 109-111.

102 Іван Ласкоў, Нашчадкі таямнічае Літвы, «Полымя», № 8, 1991, с. 204-228.

Яго-ж. Племя пяці родаў, «Літаратура і мастацтва», 18.8.1989.

103 Urkunden und Erzahlende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter.In Quellen (des Mittelalters), Bd 26a-26b, Darmstadt, 1968, 1970

104 Die Chronik Wigands von Marburg, p 645

105 Eggeriks Beninga Historie van Ostfrieslant. In: Antonii Matthaei Veteris Aevi Analecta, Editio secunda, T IV, Hagae-Comitum, 1738, pp.67, 214

106 Arnoldi de Bevergerne civis Monasteriensis Chronicon Monasteriense. In Antonii Matthaei Veteris Aevi Analecta, Editio secunda ,T. V, Hagae-Comitum, 1738, pp.75-76 97.

107 Ibidem p 872 (PraefectiU Itrajectini).

108 Annales regni Francorum, In Quellen (des Mittelalters) Bd V, Darmstadt, 1962, pp 130-133, Anonymi vita Hludowici imperatoris Ibidem, pp. 316-317.

109 Патриаршая или Никоновская летопись. ПСРЛ, Т. 10, М. 1965, с. 214.

110 Козьма Пражский, Чешская хорника. Москва, 1962,с. 47.

111 Там-жа. с.47-48, 148.

112 Urkunden und Erzahlende Quellen zur deutschen Ostsiedlung im Mittelalter Bd XXUIb, Nr. 101, 103, 104, s. 384-389, 390-399

111 Annales Fulldenses In: Quellen (des Mittelalters), BD. VII, Darmastadt, 1964, pp 84-85.

112 Codex Ecclesiae Vilnensis, Nr 151, pp 168-169

113 Annales Fuldenses, pp 106-109, 136-137

114 Adami Bremensis Gesta Hammaburgensis ecclesiae Pontificum, In: Quellen (des Mittelalters), Bd XI, darmstadt, 1961, pp 392-393

# Помнікі даўніны ва ўяўленьні беларусаў

Людміла Дучыц

Шмат розных паданьняў бытуе ў нашага народу пра гарады і вёскі, рэкі й азёры, старажытныя гарадзішчы і курганы. Больш за ўсе авеяны легендамі гарадзішчы і курганы. Сёньня ўсім вядома, што гарадзішчы гэта рэшткі ўмацаваных паселішчаў, а курганы — старажытныя пахаваньні. Раней людзі не заўжды асэнсоўвалі зьяўленьне такіх пагоркаў, але ведалі, што засталіся яны ад продкаў і разбурэньне такіх месцаў лічылася сьвятататцтвам. Гарадзішчы ў народзе звычайна зьвязваюцца з храмам ці горадам, якія праваліліся ў зямлі за грахі людзей. Часта расказваюць, што ў гары закапаны скарб зброі ці посуду або што гара насыпана татарамі, шведамі, французамі. Бывае ўзьвядзеньне гарадзішчаў прыпісваецца польскім каралям, езуітам, каралеве Боне, Кацярыне Другой і інш. Напрыклад, у в. Лужкі на Шаркаўшчыне расказваюць, што гарадзішча заснаваў ваявода Жаба, у г. п.Сьвір на Мядзельшчыне лічыцца, што гарадзішча насыпана салдатамі польскага караля Жыгімонта. У Ашмянскім раёне адно з гарадзішчаў лічыцца насыпаным у 1812 годзе па загаду рускага генэрала, і прычым зямлю салдаты насілі ботамі. У Беларусі вядома больш як паўтары сотні мясцовых назваў гарадзішчаў. Найбольш распаўсюджаныя зь іх Гарадо, Гарадзішча, Гарадзец. Многія такія назвы маюць дапаўненьні—Ніжні Гарадок, Малы Гарадок, Мсьціслаў Гарадок. Так, у ХУ ст. Полацкае гарадзішча ў дакумэнтах ужо запісана як «Стары Горад», або «Старое гарадзішча». У Палесьсі ёсьць назвы гарадзішчаў Груда, Грудок, Востраў, Выспа, Акоп, Акопішча. Некаторыя гарадзішчы носяць назвы Талерка. Узьнікненьне гэтай назвы народ тлумачыць падабенстам да талеркі. Даволі частыя назвы гарадзішчаў Замак, Французская Гара, Шведзкая Гара, Татарская Гара. Назва Замак магла зьявіцца не раней чым у ХУІ ст. Тады гэтае слова пачало сустракацца і на старонках летапісаў. А назвы, зьвязаныя з назвамі народаў, захопнікаў, маглі распаўсюдзіцца з пэўных часоў, зьвязаных з канкрэтнымі войнамі і гістарычнымі падзеямі. У народзе адны падзеі адыходзілі ў нябыт, ім на зьмену прыходзілі другія і так накладаліся ў народнай памяці. Так яшчэ з паганскіх часоў захаваліся назвы гарадзішчаў Ігрышча, Пуглянка, Гусьлішча, Чортава Гара. Гэтыя назвы сьведчаць, што на гарадзішчах калісьці маглі быць культавыя цэнтры, дзе стаялі ідалы й адпраўляліся паганскія сьвяты. Пасьля прыняцьця хрысьціянства на такіх месцах часта будаваліся цэрквы й узьнікалі новыя назвы— Царкавішча, Званіца, Манастыр. На пагранічы зь Летувой ёсьць і гарадзішчы з балцкімі назвамі — Пакальніс, Піля, Пілікала. Такія назвы паходзяць ад летувіскага слова «Пілікалнс», што значыць гарадзішча, гара.

Народная памяць адзначае нават сьляды былых неўмацаваных паселішчаў— стаянкі каменнага і бронзавага вякоў, што звычайна знаходзяцца ва ўрочышчах з назвамі, якія часта паўтараюць назвы гарадзішчаў— Гарадзішча, Замак, Замікальшчына. Але маецца і шэраг такіх назваў, якія

характэрны толькі для гэтых відаў помнікаў—Бугор, Грыва, Града. Месца былых вёсак раньняга жалезнага веку і сярэднявечча звычайна носяць назвы — Селішча, Старое Сяло, Старасельле.

Асаблівай павагай заўжды карысталіся курганы, што і нядзіва, таму што шмат павер'яў ва ўсіх народаў зьвязваецца з культам продкаў. Яшчэ ў 20-я гады нашага стагодзьдзя ў многіх месцах Беларусі на радаўніцу курганы ўпрыгожвалі зелянінай, а моладзь вакол насыпаў вадзіла карагоды. Перад тым, як ісьці да магілы сваіх блізкіх, людзі заўжды заходзілі на курганы і закопвалі на іх вяршынях яйкі.

Захаваліся шматлікія назвы курганных могільнікаў. На Падзьвіньні іх часьцей за ўсё завуць валатоўкі. У Цэнтральнай Беларусі—капцы. Частыя і такія назвы як шведзкія магілы, французкія магілы, татарскія магілы. Назву валатоўкі народ тлумачыць тым, што нібыта ў гэтых курганах пахаваны волаты-асілкі. Наогул, волаты зьвязаны з былінным эпасам, а вобраз волата -асілка —галоўны персанаж беларускіх казак. Некаторыя курганныя могільнікі да нашага часу данесьлі нават па некалькі назваў. Так, напрыклад, адзін з курганных могільнікаў у Сеньненскім раёне на Віцебшчыне, вядомы пад трыма назвамі—Балваны—Французкія магілы—Камуна. Па назвах яскрава бачна, як мянялася ўяўленьне аб гэтым археолягічным помніку.

Месцы старажытных грунтовых пахаваньняў таксама вызначаюцца сваеасаблівымі назвамі: Паганскія Магілы, Галодны Магільнік, Баярскія Магілы,Старыя клады, Халернік і г.д.

Асабліва цікавыя назвы ў культавых (сакральных) валуноў— Змееў Камень, Сцеп-Камень, Капавішча, Даждзьбог, Дзявочы Камень, Сьвяты Камень, Божы Сьлядок, Пярун, Чортаў Камень і г.д. На сёняшні дзень у Беларусі захавалася больш за 2 сотні культавых валуноў. Некаторыя зь іх атаясамліваюцца зь людзьмі, акамянелымі за працу на Вялікдзень або зь вясельлямі, якія нібыты сустрэліся зь лютым зьмеем і былі прокляты. У паданьнях пад аднымі камянямі зарыты скарбы, а каля другіх у поўнач скачуць чэрці. Многія камяні ў народзе лічацца лекавымі. У адных выпадках для лекавых «мэт» выкарыстоўваюцца кавалачкі каменя, стоўчанага ў парашок, у другіх —дажджавая вада з выемак, у трэціх мох з камня, а ў некаторых мясьцінах лічыцца дастатковым дакрануцца да каменя.

Найбольш за ўсе пакланяюцца камянямсьледавікам (Божы сьлядок, Сьлядок Божай Маці, Сьлед Хрыста, Сьлед Чорта й інш). Звычайна гэта невялікія валуны, выемкі на якіх нагадваюць сьляды чалавека або жывёл. Часьцей за ўсё гэта прыродныя паглыбеньні, але сустракаюцца і падробленыя рукой чалавека. Асабліва цікавы сьледавік знаходзіцца каля в.Сеняжычы на Навараградчыне. На ім два сьлядкі. Лічыцца, што адзін сьлядок нібыта пакінула Багародзіца, а другі чорт, які гнаўся за ёй, але не дагнаў, паколькі яна схавалася ў кляштары й адтуль пачала рабіць цуды. У іншым паданьні сьлядкі на гэтым камені пакінулі шведы, каб паказаць куды яны накіроўваюцца. Сьледавікам яшчэ й у наш час носяць ахвяры-манэты, зеляніну, кветкі, воўну, ставяць сьвечку. Па царкоўных сьвятах да сьведавікоў хадзілі працэсіі. Дарэчы, такія камяні вядомы ва ўсім сьвеце. Ім яшчэ пакланяліся старажытныя егіпцяне, грэкі, рымляне. Вучоныя прыйшлі да высновы, што такая зьява ёсьць праслаўленьне старажытнага культу бога сонца, якое ідзе па сьветаўтварэньню, прыносіць сьвятло й урадлівасьць. З распаўсюджвань

нем хрысьціянства царкоўнікі прыстасавалі паганскі культ да сваіх мэт і так зьявіліся паданьні аб сьлядках Божай Маці і розных сьвятых.

Шмат і камянёў з назвамі Кравец. Згодна паданьням, такія камяні шылі адзеньне або боты, але потым іх абразілі, і яны перасталі шыць. Некаторыя з такіх камянёў лічацца акамянелымі хатамі краўцоў за тое, што іх гаспадары працавалі на Вялікдзень.









Даволі распаўсюджаны паданьні аб камянях, зьвязаныя з каханьнем двух хлапцаў да адной дзяўчыны. Дзяўчына ставілася да іх аднолькава, і хлапцы настойвалі на выбары. Прыгажуня сказала хлапцам, каб яны з аднолькавай адлегласьці беглі да яе, і хто першы прыбяжыць, за таго яна і пойдзе замуж. Хлапцы прыбелглі разам, тут-жа ўдарыў пярун і забіў усіх траіх. Тры камяні гэта й ёсьць нібыта хлапцы і дзяўчына.

Цікавыя паданьні і пра шырокавядомы Рагвалодаў камень каля в.Дзятлава на Аршанчшыне. Згодна аднаму паданьню, на гэтым месцы адбывалася бітва паміж Рагвалодам і друцкімі князямі, а па другому паданьню Рагвалод, вяртаючыся з паходу, адпачываў тут са сваёй дружынай, і яму прыбачыўся нябожчык бацька Барыс, а таксама брат Глеб.

Вялікай павагай у беларусаў заўжды карысталіся каменныя крыжы. Яны звычана ставіліся на перакрыжаваньнях шляхоў, на водных пераправах, на месцах бітваў, у гонар знамянальных шляхоў, у гонар знамянальных падзеяў, па краях гарадоў і вёсак для заступніцтва ад халеры й ад ворагаў, а таксама на могілках. Каля возера Сялява (Крупскі раён), у лесе тры крыжы носяць назвы Макараўскі, Маісееўскі і Скарпіён. Па паданьнях, пад першымі двума пахаваны рускія генэралы, а пад крыжам Скарпіён — французкі генэрал. Каменны крыж у Заслаўі пад Менскам нібыты быў пастаўлены на месцы забойства нейкага Федзькі, якога па дарозе забілі рабаўнікі, каб адабраць грошы, якія ён атрымаў за прададзеную карову. На востраве Дрысьвяцкага возера на Браслаўшчыне ляжаць тры каменныя крыжы, пра якія расказваюць, што калісьці на гэтым месцы вялікай княгіняй Аленай Іванаўнай быў пабудаваны храм у гонар трох сьвятых — Сьвятога Васіля, Вялікага Рыгора Багаслова й Іаана Златавуста. А крыж, які ў мінулым стагодзьдзі стаяў над адной з плошчаў Менска, нібыта абараняў жыхароў ад эпідэміяў, пажароў і іншых няшчасьцяў.

# З архіваў КДБ

## Як загінуў Езавітаў

Уладзімір Міхнюк, Якаў Паўлаў



Зь імем Канстантына Езавітава зьвязана нямала легендаў і міфаў, як ў Беларусі, такі й у эміграцкіх колах. Адныя сьцвярджаюць, што першы беларускі генэрал быў расстраляны НКДБ ў 1945 г., «як здраднік», нібы ў Віцебску, нібы ў Менску. У пацьверджаньне гэтага прыводзяцца ўспаміны Л.Случчаніна, які быццам-бы сядзеў у той час ў «амэрыканцы» і неаднойчы чуў громкі голас: «Вядуць на расстрэл беларускага генэрла Езавітава».

Другія кажуць, што яго сьлед загубіўся ў сібірскіх рудніках. Трэція лічаць, што Езавітаў эміграваў на Захад у якасьці савецкага разьведчыка. Дакумэнты архіва КДБ дазваляюць сёньня з абсалютнай верагоднасьцю паставіць кропку над «І».

Калі Савецкая армія штурмавала Бэрлін, К.Езавітаў спрабаваў прабрацца насустрач амэрыканскім вайскам. У канцы красавіка 1945 г. ён апынуўся у руках контрразьведкі «Смерш». І дапамог яму ў гэтым яго асабісты ад'ютант Юркевіч, які зьяўляўся агентам НКДБ. Пасьля 2 папярэдніх допытаў у дзеючай арміі, быў дастаўлены у Маскву на Лубянку, дзе знаходзіўся да канца кастрычніка 1945 г. Яму было прад'яўлена абвінавачваньне у тым, што, здрадзіўшы Радзіме, ён заставаўся пражываць на акупаванай тэрыторыі, уступіў у злачынную сувязь зь немцамі, зьяўляўся кіруючым удзельнікам антысавецкай арганізацыі, правадзіў варожую дзейнасьць супраць СССР.

З пратаколу допытаў Езавітава 23 кастрычніка 1945 г.

***Пытаньне: Вам понятна сущность предъявляемого обвинения?***

***Адказ: Так, прад'яўленае абвінавачваньне мне зразумела.***

***Пытаньне: Признаете ли Вы себя виновным в предъявляемом обвинении ?***

***Адказ: Так, у прад'яўленым мне абвінавачваньні віноўным я сябе прызнаю.***

Па просьбе Цанавы яго накіравалі ў Менск. Там ён дапытваўся і пакінуў уласнаручныя паказаньні аб сваёй дзейнасьці.

Сьледства ў справе Езавітава не было закончана ў сувязі зь яго хваробай і наступіўшай сьмерці. Езавітаў памёр 23 траўня 1946 г. у турэмнай больніцы. У акце аб сьмерці сказана, што яна «произошла от туберкулеза легких и при дистрофии 3-й степени».

Чытачам «Полацка» прапаноўваем паказаньні Езавітава, якія ён напісаў ва ўнутранай турме НКДБ у ліст.1945—лют. 1946 г.

# Уласнаручныя паказаньні Езавітава, Канстантына Барысавіча

Менск, 30 лістапада 1945 г.

Склад Беларускай Цэнтральнай Рады, указам Генэральнага камісара Беларусі ген. Гольдберга, быў пры заснаваньні яго адзначаны ў колькасьці 15 чалавек. Беларусаў гэта не задавальняла, так як яны імкнуліся мець нешта такое, што сваёй формай нагадвае парлямэнт. Немцы-ж як раз парлямэнта або яго копіі не хацелі дапускаць. Таму ажно да Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, які адбыўся 27 ліпеня 1944 г. у Менску, спробы Астроўскага і БЦР пашырыць базу БЦР шляхам прыцягваньня да яе новых сябраў не ўвянчалася посьпехам.

2 Усебеларускі Кангрэс зацьвердзіў ужо імеўшыхся 15 сяброў БЦР і даў Астроўскаму паўнамоцтвы на павелічэньне ліку сябраў БЦР. Пры гэтым думалася, што лік сябраў БЦР будзе даведзены да 100 чалавек, і ў першую чаргу будуць у іх уведзены усе кіруючыя асобы з раёнаў (раённые бургамістры павінны былі ўвайсьці ўжо па займаемай імі адказнай пасадзе), а потым прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў, навуковых і літаратурных, а таксама прадстаўнікі прафсаюзаў і эканамічных арганізацыяў.

Эвакуацыя Менску парушыла гэты плян. Акрамя таго стварэньне грувасткага апарату ва ўмовах эміграцыі было немэтазгодным. Таму, калі паднялося пытаньне аб пашырэньні складу БЦР у Бэрліне, вырашана было прыпыніцца часова на 25 асобах, з тым, каб пры неабходнасьці гэтую колькасьць у далейшым можна было павялічыць.

Сьпісак першых 15 асобаў і новых 10 сяброў быў мною ўказаны на паказаньнях у Маскве. У выніку таго, што ў ім маглі ўкрасьціся памылкі, я хацеў-бы праверыць гэтыя сьпіскі яшчэ раз, каб даць іх у канчатковай форме, як яны мне зараз ўспомніліся пасьля прыпамінаньня асобных прозьвішчаў і часу іх уваходжаньня ў БЦР.

Першапачатковы сьпіс з 15 сяброў існаваў да дня Кангрэсу, але 3 зь сябраў БЦР, па розных прычынах, з БЦР выбылі і к моманту адкрыцьця Кангрэсу ў складзе БЦР было ўсяго 12 сябраў і 3 вакантных месцаў. Раніцой 27 чэрвеня, перад адкрыцьцём паседжаньня, Астроўскі прапанаваў мне ўвайсьці ў склад БЦР і сказаў, што толькі што ён прапанаваў Абрамову і Ганько. Я даў сваю згоду. Хто былі 3 выбыўшых сябраў БЦР, я ня памятаю.

1 дзень 2 Усебеларускага Кангрэсу быў зацьверджаны ім наступны склад БЦР:

1.Астроўскі Радаслаў—*Прэзыдэнт БЦР*

1.Шкелёнак Мікалай—*1-й заступнік Прэзыдэнта БЦР*

3. Сабалеўскі Юры—*2-й заступнік прэзыдэнта БЦР*

4.Кандыбовіч Семен—*заг Адміністр. аддзелам*

5.Калубовіч Аўген—*заг. прапагандным аддзелам*

6.Кушаль Балеслаў—*камандзір Краёвай Абароны*

7.Сьвірыд Пётр —*сакратар БЦР*

8.Стаськевіч Іван—

9.Родзька Ўсевалод—

10.Селях Вячаслаў—

11.Орса Пётр—

12.Станкевіч Іван—

13.Ганько Міхаіл —*старш. Саюза Моладзі*

14. Абрамова Надзея—

15. Езавітаў Канстантын—

На самым Кангрэсе Астроўскі зараз-жа павёў перамову з некаторымі асобамі аб уключэньні іх у БЦР.Сярод першых асобаў ён запрасіў і Кіпеля, старшыню Кангрэсу, і той даў сваю згоду, але пасьля ён у склад БЦР уключаны ня быў, бо выявілася, што пасьля эвакуацыі павеў супраць Астроўскага і БЦР апазыцыйную работу ў Бэрліне, не прыпыняючыся нават перад прамымі даносамі на БЦР і Астроўскага.

Так як склад БЦР у партыйных адносінах быў вельмі стракатым, і ў асяродзьдзі 15 сябраў ужо заўважаліся пэрсанальныя й ідэалягічныя разыходжаньні, то, запрашаючы і рэкамендуючы БЦР новых сябраў, Астроўскі быў асабліва асьцярожны і спрабаваў гэтыя разыходжаньні зьліквідаваць, ураўнаважыць.

20 сьнежня 1945 г. у гадавіну першага паседжаньня БЦР, у Бэрліне, у памешканьні БЦР адбылося прысьвечанае гэтай гадавіне паседжаньне БЦР, на якім былі прыняты новыя 10 сябраў і прынята была Канстытуцыя Беларусі, якую асобная камісія БЦР загадзя распрацавала, у разьліку ўжо на хуткі разгром Нямеччыны, у дэмакратычным духу, так каб гэтая Канстытуцыя была прымальна саюзьнікамі.

На гэтым паседжаньні у склад БЦР былі ўключаны наступныя 10 сябраў:

1.Адамовіч Антон—*беларускі публіцыст,*

2.Станкевіч Станіслаў—*рэдактар газэты «Раніца»,*

3.ХмараСяргей—*беларускі паэт і публіцыст,*

4.Касяк Леанід—*інжынер-будаўнік па прафэсыі, блізкі праваслаўным колам,*

5.Галяк Леанід—*юрыст, быўшы сакрат. 2 Усебеларускага Кангрэсу,*

6.Калоша <Іван>—*інжынер, кіраўнік Беларускага аддзелу пры нямецкай арганізацыі «Arbeit front» («Рабочы фронт»),*

7. Букатка<Бэрнард>—*кіраўнік «Беларускага Прадстаўніцтва», арганізаванага немцамі для беларускіх ваеннапалонных у 1939-1940 гг.*

8. Бокач Пётр—*прадстаўнік арганізацыі «Самапомач» (на тэрыторыі Нямеччыны),*

Беленіс <Антон>— *старшыня арганізацыі «Самапомач», эвакуіраванай зь Беларусі;*

10. Рагуля Барыс—*майор,старшыня беларускага афіцэрства.*

Подпіс

30. XI. 1945, Менск.

**Пасьля паседжаньня 20.01.1945 Астроўскі вёў** перамовы аб уключэньні ў БЦР яшчэ **наступных** 6 асобаў, якія далі сваю згоду.

**1.Архіяпісап Фелафей,** *намесьнік мітрапаліта **Пантелеймона. Ён павінен быў** быць у БЦР прадстаўніком **Беларускай Мітраполіі.***

**2.Ксёндз Татарыновіч**—*павінен быў быць **прадстаўніком** беларусаў-каталікоў,*

**3.Бароўскі** Андрэй, *былы кіраўнік беларускай **дыпляматычнай** місыі ў Нямеччыне, які з 1918 г. **пражываў у** Бэрліне і павінен быў лічыцца прадстаўніком першага эміграцкага ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі ў складзе БЦР. Астроўскі спадзяваўся таксама выкарыстаць старыя знаёмствы і сувязі Бароўскага ў дыпляматычным сьвеце.*

4. Др.Грынкевіч Станіслаў, *які скончыў у Бэрліне ўнівэрсытэт, адзін час быў рэд-м газэты «Раніца», меў у Бэрліне шматлікія сувязі як ў нямецкіх колах,так і ў колах эміграцыі іншых нацыянальнасьцей.*

5.Др-р Шчрос Мікалай, *былы старшыня Беларускага нацыянальнага камітэту ў Варшаве, які меў сувязі з польскімі коламі.*

6.Інж. Тамашчык, *былы сябра праўленьня Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку, а ў Бэрліне супрацоўнік у "Arbeit Front" («Рабочы Фронт»). Ён цудоўна валодаў нямецкай і чэшскай мовамі, так як вучыўся ў Празе. Выкарыстоўваць яго Астроўскі меў на ўвеце і для дыпляматычнай дзейнасьці.*

Усе гэтыя асбоы, за выняткам Бароўскага Андрэя, які ў час перамоваў памёр, лічыліся ўжо сябрамі БЦР, аднак сьпісак іх фармальна яшчэ не прайшоў праз пленум БЦР, а быў толькі ўзгоднены з прэзыдыюмам БЦР

30. XI, 1945 Менск Подпіс.

(Працяг у наступным нумары)

# РОДНАЕ СЛОВА

## Новыя творы Масея Сяднёва

### Каляндар

Калі ў мяне ня было ніякага каляндара—ні адрыўнога, ні настольнага, мне было добра: мне ня трэба было глядзець на каляндар, каб даведацца, якое сёньня чысло, я жыў як-бы па-за часам, свабодны, каб рупіцца, як называецца дзень, у якім я жыву. Тыя дні міналі няўпрыкметку, час нічым у мяне не вымяраўся і не вызначаўся— ён быў часам сам па сабе, для мяне ён нібы не існаваў.

Цяпер-жа ў мяне на сьцяне адрыўны каляндар і мне клопат зь ім: я мушу зірнуць на яго, якое сягоньня чысло, менавіта чысло, а ня дзень. Чысло (сама лічба) набывае для мяне нейкае сымбалічнае, нат містычнае значэньне.Чысло глядзіць на мяне цэлы дзень, аж пакуль увечары не адарву тое чысло-лісток з каляндара. Але мне здаецца, што, адрываючы лісток-лічбу з каляндара, я адрываю, выкрэсьліваю й адзін дзень з майго жыцьця. Мала таго, я заглядаю ўжо ў наступны дзень-лісток, што там у тым лістку, мне хочацца ўжо й яго адарваць Я падлічаю, колькі дзён засталося да канца месяца, мяркую, калі пачнецца наступны месяц, я сьпяшаюся жыць, каляндар падганяе мяне, і ў гэтай гонцы —няўхільная думка: колькі-ж тых дзён засталося табе?

Не, лепей жыць без каляндара, не падлічаць дні, не глядзець на чысло.



### Мова Лукаша Калюгі

Як можа ні ў кога, у Лукаша Калюгі мова самая адметная, самая своеасаблівая. Нават у Кузьмы Чорнага, блізкага паводля мовы Калюгу, мы не назіраем такой апрычонай, самастойнай лінгвістычнай пазіцыі. Чым-жа адрозьніваецца беларуская мова Лукаша Калюгі ад звычайнай, агульнаўжыванай літаратурнай мовы? Якія рысы робяць яе адметнай і наколькі гэтая адметнасьць мовы Калюгі служыць яму, як пісьменьніку-мастаку? Нарэшце, гэтая адметнасьць, гэтая асаблівасьць—плюс ці мінус?

Найперш, мова Калюгі—гэта не літаратурная мова ў звычайным сэньсе. Гэта мова Калюгі, асабістая мова. Але гэта адначасна і мова ягоных герояў. Мы назіраем у Калюгі рэдкую, амаль абсалютную тоеснасьць мовы пісьменьніка і мовы ягоных персанажаў, зьліцьцё гэтых моваў. Мы назіраем зродненасьць аўтара зь ягонымі дзеючымі асобамі.

Уражаньне такое, быццам у аўтара і няма сваёй мовы, быццам ён паслугоўваецца мовай таго ці іншага свайго героя. Але гэта ілюзія: за кожным персанажам стаіць аўтар, толькі што мы не заўважаем ягонай прысутнасьці, і у гэтым якраз і палягае надзвычайная мастакоўская здольнасьць Калюгі-пісьменьніка.

Мова Калюгі псыхалягічна дакладная. Яна настолькі дакладная, што ў кожнай рэпліцы, у кожным руху, у кожным чэсьце вы не заўважаеце фальшы: пісьменьнік забясьпячае свайго персанажа ягонай прыватнай мовай. Праз гэтую мову раскры-

ваецца духоўны сьвет героя, ягоная псыхалёгія і нават ідэялёгія.

Адсюль іншая асаблівасьць мовы Лукаша Калюгі—ягоны сынтакс. Гэта ня той сынтакс, да якога мы прывыклі. Гэта Калюгаў сынтакс і адначасна сынтакс ягоных дзеючых асобаў. Своеасаблівая канструкцыя фразы, як найлепш выдае, раскрывае асобу, ейную псыхалёгію, яна агаляецца, паўстае перад намі жывой, незамаскаванай мовай агульнай, неперсанальнай. Сынтакс Калюгі настолькі адрозны ад агульнага, наколькі адрозьніваецца—псыхалягічна, мэнтальна-абраная ім для дасьледваньня сацыяльная праслойка ад мэнтальнасьці пасярэдняга тыпу нашай нацыі. Не забывайма, што ў такіх сваіх творах, як «Нядоля Заблоцкіх» і «Ні госьць, ні гаспадар» Калюга ўзяў блізкі яму матэрыял—людзей з уплывамі польскай культуры, псыхалягічна ў нечым адрозных ад стандартнага нашага тыпу. У мове гэтай праслойкі мыназіраем паланізмы, асабліва звароты, хутчэй блізкія польскай мове.

І Калюга нічога не мяняе ў моўным ладзе сваіх персанажаў, сынтаксычна аўтар арганічна зросься з сваімі дзеючымі асобамі І гэта не загана, а наадварот—выключная здольнасьць пісьменьніка ў спасьціжэньні абраных ім герояў. Падгані Лукаш Калюга мову сваіх герояў пад агульны, неасабовы сынтакс, у ягоных творах мы пабачылі-б не жывых людзей, а манікенаў. І не было-б пісьменьніка Лукаша Калюгі.

Канешне, асаблівасьці стылю Лукаша Калюгі могуць і зьнеахвочваць чытача. Ня кожны, ўзяўшыся чытаць твор Калюгі, дачытае яго да канца. Чытаньне твораў Калюгі нялёгкае—запаволенасьць, цягучасьць, аналітычнасьць не даюць магчымасьці прабегчы вачыма твор Калюгі, за адзін прысядак праглынуць яго. Затое хто адолее твор Калюгі, той адкрые для сябе нешта новае, дасюль неадкрытае, духоўна ўзбагаціць сябе, адчуе на сабе эстэтычнае ўзьдзеяньне мастацкага слова выдатнага пісьменьніка.

1992 г.





# Беларус

Міхась Кавыль



Чаму я беларус?
Таму, што ня турак...
Цагліны-гены «плюс»
Паклалі мне ў падмурак
Марыля і Казьмер,
Абое зь Беларусі.
Усіх гонараў наўзьверх
Бацькамі ганаруся.
Матуля-«цемната»,
Ды сьветлая ў сумленьні,
А бацька-дабрата.
Ад іх мае карэньні.
Я вырас на дрыгве
Каля Случы, нябурнай.
І неба, й чалавек
Не шкадавалі бур нам.
Дрыгвіч, як і крывіч,
Ад веку войны, сьмелы,
Купаўся у крыві,
А выйшаў белы, белы...
І тая бялізна—
Душы мае аснова.
Каб брата брат пазнаў,
«Візытку» даў Бог—мову.
Напеўную, як струн
Цымбальных пераборы,
Як родную сястру,
Шаную ў шчасьці й горы.
Яна мой меч і сьцяг
Да старасьці з маленства.
Люблю зямлі прасьцяг
Ад Вільні да Смаленска.
Ня выкруцень, ня трус,
Ня вораг мне і турак,
Я брат зубра і тура...
Такі, вось, Беларус.



1992 г.





# Васілёк за калючым дротам



Алег Лойка

Я пішу гэтую прадмову да кнігі вершаў паэта, зь якім першы свой верш апублікаваў у адзін і той-жа дзень, у адной і той-жа «Баранавіцкай газэце». Дакладную дату таго 1943 году я не памятаю, але што мяне называлі дванаццацігадовым паэтам, памятаю. Мой верш у той газэце меў назву «Восень», а Васіля Супруна—«Бор». Вершы ў рэдакцыю даслаў Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн, тады дырэктар Слонімскага музэю, які зьбіраў вакол сябе цікаўных да паэзіі хлапцоў. Да Сяргея Міхайлавіча мяне прывяла маці, і затым я ўжо сам бегаў да яго то па кніжкі, то зь вершанятамі, сустракаючыся калі-нікалі і са старэйшымі гадаванцамі Сяргея Міхайлавіча.

Васіль Супрун вучыўся тады ў Слонімскай настаўніцкай сэмінарыі, там ратуючыся й ад вывазу ў Нямеччыну, бо ў 1940 годзе быў ужо семнаццацігадовым юнаком. Сэмінарыя вызваліла яго ад Нямеччыны, але не ад таго, што пачалося неўзабаве. У першыя пасьляакупацыйныя гады малады паэт стаў працаваць у родных мясьцінах дырэктарам школы, настаўнікам, завочна вучыўся. Закончыў Ганцавіцкае педвучылішча. А ў чэрвені 1947 году быў арыштаваны, як і многія выпускнікі сярэдніх школ Слоніма, Наваградка й усёй Гродзеншчыны. Імёны часткі зь іх ў інтэрв'ю для «Маладосьці» (1989, №9, с. 147) называла Данута Бічэль-Загнетава: Анань Радзевіч, Віця Кардаш, Федзя Макарэнка, Эрык Сабіла, Самсон Пярловіч , Віталі Губарэвіч. Сярод успомненых ею і Васіль Супрун. Віна большасьці з гэтых хлопцаў толькі ў тым, што яны былі ў акупацыі, што падчас яе вучыліся, спрабавалі пісаць вершы, былі некалькі старэйшыя, чым я ці Мікола Арочка, ці Данута Бічэль-Загнетава, якім праз такі доўгі час лёс наканоўваў так скупа прадстаўляць пасьляваенную паэтычную Гродзеншчыну...

Надзвычай цяжкім стаў лёс моладзі, адарванай ад родных мясьцін. Сьведчаньнем таго — і біяграфія Васіля Супруна, і ягоная першая кніжка вершаў, што так запозьнена выходзіць. У казематкім і лягерным лёсе маладога настаўніка было ўсяго— беспадстаўны несправядлівы прыгавор—25 і 5; 25 гадоў зьняволеньня ў лягерах і 5—паражэньня правоў, значыць, высылкі. Такім суровым быў прыгавор перш за ўсё за ўпартасьць, нязломнасьць, адмову нагаворваць на сябе й іншых, карацей—за характар. За тыя яго рысы, якіх берыяўцы не чакалі ад сельскага настаўніка, маладога народнага інтэлігента, маладога беларуса.

У сваёй біяграфіі Васіль Супрун піша: «...І распачаліся этапы, канвоі, новыя зьдзекі, зьневажаньні, але ўжо не адзіночкі, а былыя камеры асуджаных на сьмерць, затым турмы, перасылкі, лягеры і... надзеі». Неадступнымі-ж сёстрамі, братамі Надзеі станавіліся вершы. «16 чэрвеня 1948 году нас выгрузілі ў Інце. З гэтым суровым і галодным шахцёрскі краем зьвзана ўся мая маладосьць, надзеі і думы. Толькі трывожныя лягерныя сны, два лісты ў год з Радзімы й юнацкія ўспаміны разнастаілі бясконцы шнур пакутных дзён, месяцаў і гадоў няволі. Мокрыя загазованыя шахты з цяжэрнай ручной працай, голад, холад, зьдзекі лягернай «охры»... І якім-жа громам уварвалася ў гэты балючы стогн маладосьці таемнае знаёмства зь дзівосным чалавекам змагаром і паэтэсай Ларысай Геніюш!» Вершы зь перапіскі двух паэтаў—Ларысы Геніюш і Васіля Супруна—ужо сталі зда-

быткам нашага чытача, надрукаваныя ў газэце «Літаратура і мастацтва» вясной 1985 году. Іх публікацыя несумненна стала падзеяй у нашым літаратурным жыцьці. Вядома, крыўдна, што бягучая крытыка таго не заўважыла, як і раней, нібы загіпнатызаваная запатрабаваньнямі вырашэньня праблем так званага паэтычнага майстэрства, якія-ж толькі і засталіся крытыцы, калі яна была на паслузе ў паэзіі, што не заглыблялася ў драмы і трагедыі народнага жыцьця. То-ж яшчэ Рыгор Бярозкін пытаўся: «Майстэрства, што з табой рабіць?» Сапраўды, ні пры чым заставалася высокая паэтычная вывучка ў нашых паэтаў, калі зь іх песен выціснута было ўсё, што было зьвязана з гістарычным быцьцём народу, якім яно рэальна было, у якім быў і лёс аднагодкаў Васіля Супруна.

У сьнежні 1956 г. Васіль Супрун вярнуўся на родную Слонімшчыну. Ужо тады, — а чым болей часу мінала, яшчэ ў большай ступэні, — пры сустрэчах зь ім мяне заўжды браў невясёлы сум. Больш таго—як бы пачуцьцё віны перад ім часта скоўвала мяне, хоць не мая ў тым віна была, што ён быў ад мяне старэйшы, што нашыя лёсы сталі рознымі. Усе свае зборнікі я падпісваў яму, бачачы, як ён іх шчыра вітае й як нешта сумотнае прадаўжае набліскваць у яго карых і ўдумлівых, нібы ў Лабановіча, вачах. Мне не верылася, што ён там не пісаў. Па маёй просьбе ён і прыносіў тое-сёе з напісанага, але не з асноўнага. Мінулае як бы стаяла паміж намі, прадаўжаючы нас разьдзяляць. «Лімаўская» публікацыя зьняла ўсе недарэчныя перагародкі. Гэты зборнік іх здымае зусім, ставячы нас зноў у адзіны шэраг паэтаў Слонімшчыны, сёньня ўжо, вядома, немаладых. Людзі-ж да людзей бываюць несправядлівымі, але не гісторыя. Усё не застаецца па-за гісторыяй: і добрае, і благое. Але я тут магу толькі цешыцца, што, нарэшце, у гісторыю нашай паэзіі ўваходзіць, што па-за ёю ўжо ніяк не застанецца і паэзія, і лёс Васіля Супруна. Больш таго—і гордасьць яшчэ поўніць маё сэрца ад усьведамленьня, што гэтыя кніжкавыя ўваходзіны ў родную паэзію Васіля Супруна —куды шырэй проста мясцовай, проста нацыянальнай. Бо паэтычны дыялёг 50-х гадоў: Ларыса Геніюш—Васіль Супрун —гэта ня толькі высокага грамадзянскага гучаньня, але і пранікліва-шчымлівая інтымная лірыка. Можа, якраз ня так ад таго, што гэта была забаронена-лягерная паэзія. Іх было тады на сьвеце толькі двое. Як быццам толькі адзін да аднаго яны пісалі тады свае вершы. Яна—Змагарка для яго і Мадонна, ён —нібы для яе і не толькі сын: Васілёк, ад родных ніў адарваны «цьвяток радзімы васілька».

У сваёй біяграфіі Васіль Супрун піша: «Нашае нечаканае знаёмства адбылося недзе ў пачатку 1953 г... Кожная яе запіска, кожны верш—гэта гаючы нектар параненаму сэрцу, гэта пяшчотны подых дарагіх беларускіх палёў, гэта трывожная песьня зьняволенай птушкі».

І малады паэт стаў пісаць —як бы на новым дыханьні, на новай вяршыні, і сам цяпер гэта разумеючы: «Паэзія была крыкам маёй душы, маім болем і пачуцьцём. Завочнае знаёмства праз кароценькія нелегальныя лягерныя «ксівы» з шаноўнай Ларысай Геніюш, такой-жа пастаўленай на калені, давала крылы для магутнага ўзьлёту, сілы і веру ў сябе, яшчэ больш будзіла любоў да роднага краю...»

Вось чаму гэты зборнік мае назву «Крык», вось чаму ён так напоўнены духоўнай сілай і верай, нязломнасьцю духу, бясконцай любоўю да роднага краю. І нездарма імёны Лауры, Беатрычэ вышэй былі ўспомнены.

Пятрарка і Дантэ збоку, нібы адчужана спазіралі на натхняльніц сэрцаў сваіх. Іншыя абставіны. Іншы час. Ларыса Геніюш — не Лаўра, не Беатрычэ. І нешта зусім іншае хвалюе запаланёнага красой мужнасьці духу Жанчыны паэта са Слонімшчыны. Але і новае ўзьнясеньне вобразу Жанчыны, і новае далучэньне ў традыцыях лірыкі чалавецтва да неўміручых тэм на новых скрыжалях у новых абставінах адбылося, сталася, як адбываецца, становіцца зьявай дня сёньняшняга ўсё, што ў гэтым зборніку знайшло сваё выяўленьне, што як і звычайна ў паэзіі, паядноўвае мінулае з наступным.

І яшчэ аб адным. Лаканічнасьцю, скупнасьцю слоў у радку і сказе, імкеньнем да афарыстычнасьці, да сьціслых аб'ёмаў верша малое формы, рэфлексыйнасьцю, што разпораз успалымняецца грамадзянскай патэтыкай—гэтымі асаблівасьцямі свайго стылю Васуль Супрун выказвае адкрытыя свае сімпатыі традыцыям Максіма Багдановіча. І ёсьць, пэўна, і ў гэтым свая зьбежнасьць, наканаванасьць: той, каго Ларыса Геніюш ў сваіх вершах ласкава называла Васільком, як бы ня мог адарвацца ад уплыву першага нацыянальнага песьняра, што ўславіў «радзімы цьяток васілька», што, аддаючы пашану жытнёваму коласу, яшчэ больш шчасьлівымі лічыў васількі ў жыце. Больш шчасьлівымі, больш прыгожымі. І няхай яно яшчэ скажацца так: не аб шчасьціж васілька за калючым дротам гаварыць людзям, але што і за калючым дротам васілёк і прыгожы, і неўміручы, гавораць!

**Ад рэдакцыі: Прадмова А. Лойкі да зборніка В.Супруна напісана 3 гады назад. 3 тых часоў кніга так і не пабачыла сьвету. І невядома, ці будзе наогул яна надрукаваная. Таму мы зьвяртаемся да ўсіх беларусаў Амэрыкі, з просьбай скласьці ахвяры для выданьня зборніка «Крык». Вашыя ахвяры Вы можаце слаць на рэд. «Полацка» з заўвагай: на кнігу В.Супруна.**

## Будзе жыць Беларусь!

Будзе жыць Беларусь,
пакуль будзе народ
помніць, хто ён
і роднае слова
хаваць,
як шаноўна бярог
столькі год
у змаганьні з навалай суровай.

Ні крывавы Пілат,
ні засьценкі, ні дрот
Не паставяць яе на калені.
Будзе жыць Беларусь,
пакуль будзе народ
помніць Славу
а не ўніжэньні.

## Благаньне

Божа, адзіны, сьвяты і магутны,
край наш ад зьедзкаў, бяды заслані,
люд беларускі вякамі пакутны,
воляй сьвятою да шчасьця вярні.

Дай нам магутнасьць, адзінства і сілы,
каб адрадзіць і падняць Беларусь.
што зацкаванай над самай магілай
змоўкла стаіць, б'е паклоны камусь.

Шчырасьцю сэрцаў і розуму ўзмахам,
верай і дзеяньнем нашым кіруй,
воляй чаканай зьмяні злыдняў плаху,
Грэх наш—о, Божа,—благаем даруй!

Інта, 1850 г.

## Мы—ахвяры расправы

Мы—ахвяры крывавай расправы.
Мы—заложнікі ў стане «яго»
Не за здраду, ці прагу да славы,—
За любоў да народу свайго.

Мы ідзём супроць буры і ночы.
Супрць зьдзекаў, няволі, маны,
За свой край, растаптаны, сірочы,
Што зьняважылі гвалтам «яны».

За бацькоўскую родную мову,
За культуру, за праўду сваю.
І за вернасьць радзімаму слову
Столькі мук у няроўным баю!

Не! Дарэмны пагрозы і зьдзекі,
Трыбуналы, канвой, ланцугі,
Мы —за права— быць чалавекам
І за край нам усім дарагі!

Інта, 1951 г.

## Пагоня

Зноў белыя коні крывіцкай Пагоні
З гусарамі грознымі ў цемры грымяць
І край змардаваны, што змучана стогне,
Спрабуе падняцца, свой гонар падняць.

Ад збону мяжоў і каваных падковаў
Праклятая цемра бляднее, дрыжыць,
І родная мова, бацькоўскае слова
Праз сметнік чужы прарастае, каб жыць.

Сьвяціся-ж ярчэй, воблік роднай Пагоні!
Народу вярні памяць слаўных вякоў.
Аб волі даўно ссумаваліся гоні
Пад грузам апекі чужых свякоў.

Грымі-ж, разрывай путы ночы шалёнай,
Каб край не акутваў нахабніцкі цень!
Хай вольна да шчасьця прастуюць калоны
І новы для нас нараджаецца дзень.

Інта 1951 г.

## Спыніўся змучаны пагляд...

*(Рандэль)*

На васільках вясьняных зораў
спыніўся змучаны пагляд.
Я зноў прыліп да ржавых крат,
на міг забыўшы боль і гора.
А думкі —недзе над пасторам,
дзе толькі два гады назад
на васільках вясьняных зораў
спыняўся змучаны пагляд.
І хоць стараюся празора
вяртаць юнацтва далягляд,
на ім шнурок знаёмых хат
губляецца:
іскрыцца -ж гора
на васільках вясьняных зораў.

Інта, 1949 г.

## Чаго я хачу?

Крывадушна пытаеце: Што я хачу?
Чаго дабіваюся прагна?
За што так жыцьцём безаглядна плачу,
ваш «рай» называючы багнам?

Так чуйце-ж, расправаў дзікунскіх крукі,
што кормяцца кроўю людзкою,
—Хачу, каб зьвяліся між нас павукі,
хачу для Радзімы спакою.

Каб край дарагі наш
ня быў краем сьлёз,
народ не жабрачыў бяспраўна,
каб путы няволі і зьдзекі ня нёс,
а быў між другіх раўнапраўным.

Хачу, каб за праўду не гналі ў Сібір,
па дваццаць пяць год не давалі,
каб брат свайго брата за страх не губіў,

«сіксоты», як цень не снавалі.
Хачу, як і людзі народаў другіх,
жыць вольна ў сваёй Беларусі.
І веру, што турмы, суды, ланцугі
рабамі стаць на не прымусяць.

Інта, 1949 г.

## Мы волі чакалі

Мы волі ад іх цярпліва чакалі,
падману паверылі зноў:
у душах прадажных спагаду шукалі,
на зьдзек аддаючы сыноў.

І думалі—у працы, цярпеньні і поце
утопім нядолю сваю,
Яны-ж нашы мары на кратах і дроце
ў сваім расьпіналі «раю».

Агнём і маною зьнішчалі ўсё тое,
што продкі ў вяках зьбераглі:
і веру, і памяць, і слова сьвятое,—
усё, што прыкончыць маглі.

Дзяцей прывучалі з маленства да кратаў.
вучылі зьняважваць свой род,
глуміцца над мовай,
над праўдай, над братам,
аплёўваць і ганьбіць народ.

Прачніцеся, брацьці! Ці-ж мы анямелі
і лёс наш стаў воляй чужых?
Прачніцеся! Покуль яшчэ не пасьпелі
на ўсё наша ставіць крыжы.

Горадзенская турма, пасьля трыбуналу, 1948 г.

* * *

Не да песень, браток, калі шыя ў ярме,
калі воля на кратах расьпята.
Нават шэпт асівеў,
ахрыпеў,
занямеў
ад віны
безь віны вінаватай.

Інта, 1950

# Магілёўскія калодзежы

Марат Баскін

(Па матывах беларускіх народных казак)

Шмат калодзежаў на Магілёўшчыне —куды вокам ня кінь, усюды жураўлямі ў неба глядзяць. Ды галоўнае ў калодзежы не жураўлі, а вада калодзежная. Як кажуць, ня той харош, хто прыгож, а той харош, хто для дзела гож. За ваду калодзежную слава не каму, а майстру-грабару. Лепшай вады, чым зь Вераб'ёвых калодзежаў а нідзе на Магілёўшчыне не адшукаць. Спрадвеку Вераб'і грабарамі былі: ад дзеда да ўнука, ад бацькі да сына сакрэт майстэрства перадаваўся. Нават ва ўсіх калодзежах імя адно: вераб'ёвы.

Доўга гэтак ішло ці не, толькі не пажадаў Мікіта бацькоўскую славу дзяліць, сваё імя захацеў праславіць. Заўсёды Вераб'і разам былі: дзе рукі маладыя трэба, а дзе бяз розуму старога не абысьціся.

Бацька з сынам працуе, унук назірае; бацька адпачывае, сын з унукам калодзеж капаюць; заўсёды ёсьць зь кім параіцца, на каго абаперціся. Калодзеж выкапаць ня проста: ня ў кожным калодзежы смагу прагоніш.

Ды Мікіта быццам гэтага ня ведае: бацьку да свайго калодзежа не падпускае:

—Я адзін выкапаю. Бацька ледзьве рыдлёўку ў руках трамае. А славу папалам дзяліць трэба! Не хачу капаць вераб'ёвы калодзежы—буду капаць мікітавы!

Забыўся хлопец, што й яго прозьвішча Верабей! Што бацька яго навучыў грабарству!

Хоць і ганарыстым стаў Мікіта, на бацьку і не глядзіць, ды душа ў бацькі за сына баліць. Ведае, што ня ўсе сакрэты майстэрства Мікіта ведае. Каб навуку калодзежную прайсьці, трэба жыцьцё пражыць, з апошнім словам бацькоўскім яна сыну перадаецца. Баліць сэрца ў бацькі — не трапіў-бы сын у бяду з-за свайго гонару.

А бяда ўжо ў дзьверы стукае: з Магілёва па грабара губэрнатарскія лёкаі прыехалі.

—Самому магілёўскаму губэрнатару калодзеж трэба выкапаць. Абяцае губэрнатар футра сабалёвае грабару, які калодзеж той выкапае!—Лёкаі тлумачаць.—Яго сьветласьці ваду калодзежную ад хваробы замежныя лекары прыпісалі! Усюды мы пра грабароў пыталіся. Усе нас у Маластоўку да Вераб'ёў пасылалі: лепей за іх, казалі, няма на Магілёўшчыне майстроў!

Толькі пачуў тыя словы Мікіта, наперад выступіў, каб бацьку апярэдзіць:

—Я Верабей,— кажа, бацькоўскае прозьвішча ўспомніў. — Я грабар! Я губэрнатару калодзеж выкапаю! Лепей за мяне ў Маластоўцы майстра няма.

Доўга лёкаі не разьбіраліся, калі ты Верабей, то сядай у карэту, дзьверцы адчынілі, бы перад панам.

Бацька паціснуўся да сына, з сабой папрасіўся ўзяць:

—Славы ня трэба мне, кажа. —Дапамагчы хачу: больш за цябе калодзежаў я выкапаў, а раптам спатрэблюся ў рабоце?

—Адно футра на чатыры плячы не апрануць, — Мікіта адказаў.

У карэту сеў, панам сябе адчуў.

Паехаў у Магілёў Мікіта, а бацька начамі ня спіць, крылы-б былі— птушкаю ўсьлед паляцеў: адчувае, што нялёгка сыну ў Магілёве. За просты калодзеж футра ня дораць, ведае бацька, што пан і за шчэпку знойдзе зачэпку.

Доўга з Магілёва вестак не было: зусім

бацька зьвёўся, вочы ўваліліся, тварам схуднеў. Дні гадамі цягнуцца: як там Мікіта?

Колькі начэй ня спаў не лічыў, толькі неяк бачыць, мужычок перад ім узьнік. Мужычок з твару як ўсе маластоўцы, толькі гэткі малы, што на далоні ляжа й яшчэ месца застанецца. Кій падарожны ў мужычка ў руцэ, капялюш саламяны на галаве, торба за плячыма.

—Балюча на цябе глядзець, як па сыне зьвёўся, — мужычок кажа, а ён-жа гэтак пакрыўдзіў цябе! Бацьку благое слова сказаць—шчасьце ад хаты адвадзіць!

—Дык-жа сыночак, родны,—грабар кажа.

—Губэрнтараў палац на гары стаіць. Сам ведаеш, як на гары калодзеж капаць! Машэка, на што асілак быў, а і тое гэткую работу не асіліў-бы! Абяцаў губэрнатар твайго Мікіту ў кайданы закаваць ды ў Сібір паслаць, калі заўтра калодзеж не выкапае. Глыбіня ў таго калодзежа ўжо з тры жураўлі будзе, а да вады яшчэ гэтулькі. Вось якое футра пан прыгатаваў!

—Дапамажы Мікітку, Малы Мастовец,—грабар мужычка пазнаў.—Не за сябе прашу, за сыночка! Ён-жа ад майго дрэва лісточак, Даруй яму! Снасьць ламаецца — чалавек розуму набіраецца. Без тваёй дапамогі вады ў тым калодзежы нікому не пабачыць! На калені перад мужычком стаў.

—Я не пан які, каб мне ў ногі кланяцца,—мужычок адказаў. — Я таксама мужыцкага роду! Цяжка мне таму дараваць, хто бацьку абразіў! Каб са шчасьцем жыць, трэба шчасьцем даражыць!

—Мяне пашкадуй, —грабар кажа. — Ён-жа крывінка мая! Не ўстаяў ён перад славай! А залішняя хвала валіць і вала! Даруй яму!

—Сынку твайму не дарую, а цябе шкадую! Таму я і тут,—мужычок кажа.—Добра, будзе вада ў калодзежы: толькі ты яе сам адшукаеш.

Сказаў гэтак мужычок і...зьнік, быццам, іне было яго. Глядзіць грабар—ня сьцены вакол яго, а зямля калодзежная, і Мікітка побач вачамі лыпае:

—Адкуль татка, ты тут? —пытаецца. —Астрог мяне чакае: выбірайся зь ямы хутчэй, а тое і цябе заадно са мною ў Сібір пашлюць, — кажа. Прабач за ўсё благое, што табе казаў! Гонар мне вочы засьціў, языком варочаў. Ня быць мне ніколі грабаром!

—Няма часу крыўды лічыць, — бацька кажа. — Вада не глыбока ўжо: подых яе чую. Не было яшчэ такога, каб Вераб'і ваду не адшукалі!

Падыйшлі раніцой губэрнатарскія лёкаі, вачам не паверылі: Мікіта з бацькам журавель прыладжваюць, у калодзежы вада плёскае.

Першы цэбар губэрнатар сам выцягнуў, ваду паспрабаваў, футра зь плячэй зьняў, Мікіту падаў, а Мікіта бацьку на плечы накінуў:

—Яго слава! —сказаў.

—Не мая, а вераб'ёўская, — бацька адказаў. —Яшчэ адзін Вераб'ёў калодзеж на Магілёўшчыне стаў.

З таго часу, хто зь Вераб'ёў калодзеж не капаў, а назва адна. Славутая назва. І я той вады паспытаў: па вусах цякло і ў рот трапіла.






## Падняты родны сьцяг дзяржавы

Падняты родны сьцяг дзяржавы,
Ад даўных слаўшае вякоў, вякоў,
*Із дзён мінуўшай продкаў славы*
*Аджыў, жыве наш Край ізноў, наш Край ізноў*

Аджыў і княжы замак гонкі
Душа і сьведка даўных год, даўных год,
*А зь ім із песьняй роднай, звонкай*
*Ібеларускі наш народ, і наш народ.*

У сэрцах зьедканы да працы
Юнакаў мужных маладых, маладых,
*Квітнее Родны Край Наш-Маці*
*Зарой аквечаны, жывы, жывы, жывы,*

У баю мы створым дысьцыпліну,
Сяброўства цэмантам скуём, скуём,
*Сваю каханую Радзіму*
*Мы вечнай славаю спаўём.*

Мы зробім усё, каб жыла Маці,
Каб не памерла нам ва век, ва век,
*Яднайцесь з намі, нашы брацьця,*
*Каб беларус быў чалавек, быў чалавек,*
*Яднайцесь з намі, нашы брацьця,*
*Каб беларус быў чалавек.*

*Увага: апошнія два радкі кожнага куплета паўтарюцца па два разы.*

*** З гэтага нумару часопіс «Полацак» пачынае друкаваць факсіміле песьняў і песенных апрацовак кампазытара Міколы Равенскага.**

Тэатр Галубка дзейнічаў у пэрыяд НЭПа. Гэта быў цікавы час у гісторыі Беларусі, на якім-бы я хацеў спыніцца.

Менск, 1927 год. Па вуліцах горада рухаецца конка. Яе могуць спыніць 2 асобы, а хто маладзейшы, дык тыя ўскокваюць на хаду, бо коні бягуць паволі.




Калі мы сыйдзем з пляцу Волі ўніз па Кузьма Дзем'янаўскай вуліцы ў бок ніжняга рынку, там крама за крамай з тавармі, якія вывешваюцца звонку. Кожны крамнік цягне да сябе мужыка за рукаў і на розны лад выхваляе тавар. Стаіць такі гоман, што нічога не разьбярэш.

Праедзешся ня шпарка, але і ня дорага. Недзе з Даўгаброцкай вуліцы выводзяць на рэйкі кукушку, гружоную торфам. І вось кукушка едзе па галоўнай вуліцы—Савецкай— праз мост да Менскай гарадзкой электрастанцыі. Часам дзеці чапляюцца за ваганэткі, і гэта самая танная для іх паездка, хаця і вельмі рызыкоўная.

Па Менску бегаюць падлеткі і клічуць пакупнікоў газэты «Звесьця»! Але гараджане не сьпяшаюцца купляць гэтыя «Известия», бо не давяраюць бальшавіцкай прапагандзе. Тыя-ж самыя дзеці гандлююць цукеркамі ірысу, зрадку «асьвяжаючы» іх. (Лізнуць непрыкметна, каб цукеркі зіхацелі блескам. Тады больш шансу, што нехта купіць іх). У дварах можна пабачыць нейкага старога, які ходзіць з сваім тачыльным станком і крычыць так громка, што чуваць нават у хатах: «Каму тачыць нажы —ножніцы»? Нехта гандлюе з латка рознай дробязьзю. Чаго толькі ў яго няма, нават тавар, які ў найбольшым дэфіцыце— іголкі для прымусаў.

Вядома, сораму пры такім гандлю ніякага няма—наадварот, чым болей нахабнасьці, тым болей выручка. Гэтае месца не здарма завецца чорным рынкам, (зараз гэта плошча 8 Сакавіка). Тут гандаль ідзе з рук у рукі. Прадаюцца нават залатыя рэчы, а хутчэй падробкі пад золата, бо махлярства—галоўная мэта ашуканца.

У другім будынку на ніжнім рынку малітвенны дом бабцістаў-адвентыстаў сёмага дня, з другога боку маецца некалькі хат для начлежнікаў—мужыкоў, што затрымаліся ў горадзе са сваім таварам. Начлежка брудная, багата клапоў ды прусакоў, а мух такая колькасьць, што на памыйнай яме значна меней.

Наша сям'я з трох чалавек —маці і мы з братам, мусілі аднойчы начаваць у такой гасьцёўні, а два балаголы з нашымі рэчамі і сваімі конямі пераначавалі ў знаёмых. Пераезд наш адбываўся ў пачатку сакавіка, калі мы пакідалі мястэчка Шацк, каб апынуцца ў Лагойску, куды перавялі па працы майго айчыма.

(Працяг. Пачатак ў №5, 1991—5(15), 1992)

Трэба сказаць, што балагол у Беларусі вельмі важная асоба. Гэта чалавек, які добра ведае дарогі, рэльеф мясцовасьці, можа разьлічыць, колькі вёрстаў для бліжэйшай карчмы, дзе можна накарміць свайго каня, адпачыць і падсілкавацца самому. Звычайна балаголы, як і карчмары, былі яўрэйскай нацыянальнасьці. Розьніца толькі ў тым, што балагол моцны і дужы чалавек, бо ён дапамагае каню на спусках дарогі.

У Беларусі ў тыя часы было шмат лясоў, ды такіх, што можа толькі ў байках сустрэць для параўнаньня. Чаго вартыя лясы Чэрвеня! Яны цягнуліся на дзесяткі вёрстаў, а ў тых лясах ў 20-я гады было шмат бандытаў, якія перахоплівалі каапэратараў, забівалі, рабавалі сялян, гвалцілі, палілі хутары. Вядома-ж і балаголам даставалася ад «зялёных», бо грузы везьлі ня толькі прыватным гандлярам, але і дзяржаўным каапэратывам. Гэты адзіны від транспартыроўкі грузаў часта ахоўваўся міліцыянерамі. (У 1923 г., менавіта ў чэрвенскіх лясах, была разьбіта ў шчэнт апошняя банда зялёных. Што тычыцца дарогаў ды іх стану, дык засталіся яшчэ ў вялікай колькасьці Екацярынаўскія шляхі.

Брукаваных-жа шляхоў амаль не было, бо і гарады павятовыя ня мелі бруку. У самым Менску першы асфальт быў пакладзены на вуліцы Леніна на невялікім кавалачку ад пляца Волі да Савецкай вуліцы можа ў пачатку трыццатых гадоў, і адсюль гэты кавалак вуліцы быў месцам прагулак: ад вежы з гадзіньнікам да дзяжаўнага банку, што на рагу Савецкай. Дрэнны стан нашых дарог , як казалі немцы, быў на карысьць толькі Саветам, бо з той тэхнікай, што мелі немцы, па бездарожжу бліц-удару не атрымалася.

А як-жа ў канцы дваццатых гадоў складалася культурнае жыцьцё, ды і наогул, чым жылі менчукі пры НЭПе? Возьмем, напрыклад, фізычную культуру. Ніхто не дасьць веры, што ў той час фізкультура стаяла на высокім узроўні, бо масавасьць яе была настолькі вялікая, што кожная школа мела ў зімні час спартыўную залю, а ўлетку спортпляцоўкі. Была вялікая колькасьць спортгурткоў, спортклюбаў, спартыўныя высьцягі, забегі на лыжах. А шахматы? Шахматная гарачка ахапіла нават раёны. Усюль ішлі турніры. Моладзь літаральна ўсіх узростаў сачыла за турнірамі, разгадвала задачы, ведала ўсіх чэмпіёнаў, сьвету. Сам я рабіў шахматныя фігуркі і вучыўся першым крокам гульні. Дзіўна, што шахматы ўплывалі і на адзеньне. Шапкі ў клетку, так званыя кэпі, пінжакі, спадніцы, нават шкарпэткі ў клетку. Спорт-жа лічыўся буржуазным перажыткам, бо ён, маўляў, ідзе не на карысьць здароўю, а толькі ў імя грошаў, што ляжаць у аснове кожнага спаборніцтва. Помню ў «Кракадзіле» вядомыя мастакі зрабілі карыкатуру на заходняга спартсмэна з тэкстам: «Рукі гіры, ногі—гіры, гіра—галава». У тэорыі былі доказы шкоднасьці спорту на здароўе чалавека.

А што рабілася ў тэатры, дык зноў-жа Мэярхольд уплываў сваім мэдатам так моцна, што пазабыліся на дэкарацыі й абыходзіліся бязь іх. Усё рабілася ўмоўна. Успамінаецца п'еса «Лес» Астроўскага, якую бачыў у Маскве паводля рэжысуры Мэярхольда. Сядзіць Ігар Ільінскі ў ролі Аркашкі на нейкім яшчыку і ловіць рыбу бяз вудачкі, але так лоўка, што ствараецца ўражаньне, быццам-бы ён паймаў на вуду рыбу, і зараз яна трапешчыцца ў ягоных руках. Пры гэтым ніякіх словаў ня чуецца.

У Менску працаваў ТРАМ— тэатр рабочай моладзі. Драмгурткі былі ўсюды ў школах, у прафсаюзах. Заўважым, што пры

НЭПе прафсаюзы былі вялікай сілай і сапраўды стаялі на ахове чалавека. Кодэкс законаў аб працы выконваўся абавязкова, праз суды з нэпманамі дасягалі пры дапамозе адвакатуры сапраўднай аховы працы на карысьць рабочага. (З сучаснымі прафсаюзамі ніякага параўнаньня, бо яны хаця і трымаліся 8-мі гадзіннай працы, але праз так званае сацыялістычнае спаборніцтва смакталі кроў зь бедалагі-працоўнага чалавека).

У Менску акрамя ГРАМа зьявілася сіняя блуза. (Сіняя блуза—гэта вопратка французкага рабочага, якая нагадвае талстоўку, але зь вялікім бантом, але артысту-ж другой вопраткі ў тыя часы было ня трэба) Сінеблузьнікі гэта таксама тэатральны калектыў, больш эстрадны. Гэты від мастацтва таксама быў модным, сваёй формай і пралетарскім зьместам выціскаў пры НЭПе шматлікіх куплецістаў, розных акрабатаў, комікаў і цыркачоў зь вельмі банальнымі праграмамі. Цікавасьць да ўсяго новага ў тэатральным відовішчы вабіла моладзь да сябе. У кожным раёне Менска мелася сіняя блуза. І гэтае нядзіўна, бо тут можна было паспрабаваць сябе як артыста, як музыку ці дыкляматара.

Горад Менск у час НЭПа ня меў назваў раёнаў зь імёнамі партыйных дзеячоў, што мае зараз. Тады былі назвы, адпавядаючыя этнаграфіі ці гісторыі горада. Скажам, Старажоўнка — гэта прыгарад, дзе былі пабудаваны пасты па ахове горада, або Камароўка, ад якой цяпер засталася толькі назва Камароўскага рынка. Раней гэты раён быў суцэльным балотам зь вялікай колькасьцю камароў, што зусім адпавядала назову яго. Ляхаўка быў раён, дзе боль-шасьць жыхароў складаліся з палякаў, а па сутнасьці такі-жа беларусаў, але каталіцкага веравызнаньня. Беларусаў было лёгка апалячыць праз каталіцызм, а па-гэтаму касьцёлаў у Менску было, мабыць, болей чым цэркваў. Мой дзед па матцы, быў граматны чалавек, чытаў польскія кнігі. Яго сям'я складалася з 8 асобаў. Усе дзеці гаварылі ў доме па-польску. Усе мае дзяцькі і цёткі разам з маёй маці мелі польскія імёны: Антон, Олесь, Казімір, Катажына, Кліменціна, Гэлена, Аліна, Марыя. Гэтакжа было ў Галубка. Дзеці мелі імёны Багуслава, Вільгельміна, Эмілія, Эдуард, Леапольд і Сігізмунд. У хаце доўга гаварылі па-польску. У Купалаўскай фаміліі Луцкевічаў таксама гаварылі дзьве сястры папольску, ня кажучы пра цётку Уладзю-Уладзіславу Францаўну, якая пасьля вайны час ад часу наведвала касьцёл у Красным, мабыць ня толькі, каб паставіць сьвечку па нябожчыку Янку, бо і сама касьцёльная служба яе цікавіла ня меней, чым пастаноўка п'есы Купалы «Паўлінка».

Часта можна было ўбачыць ў Менску камсамольцаў з чырвонымі стужкамі на рукаве, зь бляшанымі кружкамі на шыі—капілкамі для збору манэтаў на карысьць МОПРа —міжнароднай арганізацыі помачы рэвалюцыі. Было ў модзе ахвяроўваць грошы на розныя мерапрыемствы, такія як, напрыклад, збор грошаў на карысьць помачы ангельскім шахцёрам, якія бастуюць ужо доўгі час. Кідалі грошы ўсе, нават нэпманы, бо лічылася добрым дзеяньнем міласэрнасьць, якая бачыцца ўсім.

Не магу дакладна сказаць, якая колькасьць у Менскай міліцыі мелася коней, але запомніўся выпадак, калі конная міліцыя пад кіраўніцтвам начальніка Кроля (ён быў таксама ў сядле) націскала на вялікі людзкі натоўп, каб абараніць памешканьне польскага консульства ад людзей, што кідалі каменьні ў вокны консульства і пагражалі польскаму консу-

лу, з прычыны забойства Апанскага— наша га вядомага дыплямата. Коньнікі давілі людзей, націскалі з усіх бакоў і яшчэ больш спрыялі гвалту, і ўжо цяжка было стрымаць усіх, на гэты раз ужо супраць начальніка міліцыі Кроля. Усё выглядала так, быццам і не на Савецкай вуліцы Менска адбываюцца гэтыя падзеі, дзе над консульскім уваходам зьвісаў вялікі сьцяг зь белым арлом, а недзе за мяжою, дзе паліцыя конямі давіць людзей, што выйшлі на дэманстрацыю зь мірнаю мэтаю.

Яшчэ пару слоў аб культуры тых часоў. На вёсцы або ў мястэчках былі народныя дамы — цэнтры культуры, дзе абавязкова меўся моцны драмгурток або струнны аркестр, куды час ад часу наяздджалі зь Менску лектары з антырэлігійнай прапагандай, кінаперасоўка з дынамамашынай. Маладыя хлопцы па чарзе круцілі вялікае кола дынамамаыны, ад хуткасьці якой рабілася то сьвятлее на экране, то наадварот цёмней. Як бы там не было, але лекцыя, «кіно» заўсёды былі сьвятамі на вёсцы, нягледзячы на тое, што ў цэсным пакою людзям не хапае паветра.

Зь каго складаўся той ці іншы драмгурток, аркестр? Ды ўсё з тых-жа жыхароў, настаўнікаў, савецкіх служачых, моладзі з камсамольскіх ячэек, каапэратыўных супрацоўнікаў. Здольныя людзі меліся ўсюды. Кожная сямігодка мела драмгурток і людзей, якія хацелі й ўмелі весьці гэтую працу.

Я паступіў у мастацкі тэхнікум, калі НЭП дзейнічаў ўва ўсю шырыню. Мясцовая прамысловасьць, якая была ў нэпманаў, перастала вырабляць усё, што зараз завецца прадметамі штодзённага ўжытку — шырпатрэбам. Хутка была ўведзена картачная сыстэма, якая магла толькі распаўсюджвацца на печаны хлеб у вельмі абмежаванай колькасьці на асобнага едака. Так званыя едакі замест цукру атрымоўвалі цукеркі «падушачкі», якія зьліпляліся разам так, што нельга было нават зважыць — хоць адсякай сякерай. У Віцебску ў часы заняткаў у тэхнікуме студэнты на сьнеданьне беглі зь інтэрнату, што быў на Магілёўскім рынку, да сталоўкі, можа кіламетраў два, каб пасьпець да 9 гадзін раніцы, да пачатку заняткаў. Трамвай, які цягнуўся ў гару па Магілеўскай вілуцы і ад інтэрнату ўніз ніколі не прыходзіў своечасова, і студэнты сьпяшаліся, каб па талону атрымаць дзьве лыжкі пярлоўкі, кавалак хлеба з павідлай замест цукру. Вядома, маладым увесь час хацелася есьці. Студэнты з графічнага аддзяленьня падраблялі талоны на абеды ды так спрытна, што ніхто ня мог выявіць падробку. А вось студэнты каапэратыўнага тэхнікума былі затрыманы за няўдалую падробку талонаў і пакараны сваёй адміністрацыяй звальненьнем з тэхнікума.

Пазьней студэнты мастацкага тэхнікума патроху сталі зарабляць на плякатах, якіх было болей чым хлеба. (Вось калі запрацавала агітацыя і прапаганда ва ўсю моц). Хто падпрацоўваў у Віцебскім цырку, а я з брыгадаю зрабіў вялікую колькасьць бутафорыі хатняй жывёлы: свіней, гусей і авечак,— якія ў п'есе праплывалі па кругу на сцэне яўрэйскага тэатра, што прыехаў у Віцебск на гастролі.

(Працяг у наступным нумары).



# Віленскія беларусы расказваюць...



Сьвятлана Белая

Рэдкі аматарскі фотаздымак 1937 году: у вёсцы Валеўка, што перад Налібоцкай пушчай, вясёлым гуртом стаіць група беларускай моладзі: Людвіка й Ірэна Будзькі...Вітаўт Тумаш і Максім Танк. Усе яны маладыя, прыгожыя, шчасьлівыя незалежна трымаюцца перад просценькай фотакамерай.



На здымку: у першым радзе зьлева направа: ?, Ірэна і Людвіка Будзькі
у другім радзе; зьлева направа ?, Максім Танк, ?, Вітаўт Тумаш
Фота з калекцыі др. М.Шчорса

Нават і не верыцца, што некалькі гадзін назад яны выслухалі лекцыю паліцэйскага, аб тым як трымацца і паводзіць сябе ў навакольлі, якія прамовы могуць мець зь мясцовымі жыхарамі. Ім весела і сьмешна, што іх чамусьці лічаць небясьпечнымі. А яны і не зьбіраюцца займацца нейкай там падпольнай працай, бо прыехалі сюды сваім цесным сяброўскім колам, проста каб адпачыць. І сваю вандроўку па прыгажэйшых мясьцінах Наваградчыны яны пачынаюць адсюль, з навеянага паданьнямі возера Сьвіцязь. Фатаздымак на памяць каля Петрапалаўскай царквы і далей шлях, які будзе помніцца ўсё жыцьцё.

Гэты гістарычны здымак я знайшла ўжо пасьля сваіх размоваў з доктарам Тумашам. А тады, у час свайго інтэрв'ю, праглядаючы каляндар памятных датаў, я прыкмеціла адзін юбілей: 4 верасьня 1992 году—80 гадоў з часу нараджэньня беларускага паэта Максіма Танка (ён-жа Аўген Скурко, А.Граніт, Аўгень Бура, А.Сівер, Віктар, Жэнька).

—Ці былі Вы асабіста знаёмы з Максімам Танкам?— запыталася я тады доктара.

—Так, — адказаў Вітаў Тумаш і тут-жа дадаў.—Я вельмі добра ведаў яго. Пазнаёміўся зь ім, будучы студэнтам Віленскага ўнівэрсытэта. Разам зь Янкам Станкевічам, які к таму часу скончыў Пражскі ўнівэрсытэт, я здымаў маленькі пакойчык, у якім было толькі два ложкі, палічкі для кнігаў ды вялікі стол, што стаяў пасярод пакою. Адна палова стала была мая, а другая Янкі Станкевіча. Янка заканчваў сваю дысэртацыю «Беларускі элемент у польскай рамантычнай паэзіі» і паралельна працаваў над карэктурай чацьвёртага тома Федароўскага выданьня «Lud bialoruski». Том ужо быў падрыхтваны, але ў ім было нямала недакладнасьцей. Палякі хацелі, хаб гэтае выданьне было аўтэнтычнае ў навуковым сьвеце. Таму яны і папрасілі некаторых моваведаў праглядзець кнігу. Акрамя таго Янка Станкевіч пісаў артыкулы і зацемкі для часопіса «Калосьсе». Ён быў знаёмы і зь іншымі выданьнямі.

Памятаю, як аднойчы вечарам да нас зайшоў малады чалавек. Я ўжо не скажу, як ён тады прадставіўся: як пачынаючы паэт ці проста як асоба, што цікавіцца літаратурай, у прыватнасьці паэзіяй, і спрабуе свае сілы. Гэты хлапец сказаў, што яго завуць Аўген, ён хацеў-бы прачытаць свае вершы. Пэўна, ён разьлічваў, што Янка Станкевіч дапаможа надрукаваць што-небудзь зь ягоных твораў у «Калосьсях» або яшчэ дзе-небудзь. Янка, падбадзёрыў яго, і той дастаў з кішэні некалькі лісткоў, надрукаваных ў нейкім хутчэй за ўсё падпольным выданьні, і пачаў чытаць іх. Гэта быў верш аб эміграцыі Аргентыны. У той час многія беларусы эмігравалі ў далёкую паўдзённа-амэрыканскую краіну ў пошуках лепшай долі. Аргентынскі ўрад патрабаваў танную працаўную сілу і абацяў завербаваным рабочым залатыя горы. На самой справе ўсё аказалася інакш.

Хлапец дыклямаваў свой верш выразна, і мне прыгадалася, што я ўжо чытаў яго раней у нейкім часопісе. Ён і тады ўразіў мяне сваёй своеасаблівай манэрай. Пераважная большасьць паэтаў таго часу арыентавалася на паэзію нашаніўцаў. Такіх вялікіх і паважаных, як Купала, Колас, Багдановіч. Узяць хаця-б Натальлю Арсеньневу, творчасьць якой была папулярна ўжо ў тыя часы. Арсеньнева прытрымлівалася старой традыцыі, бо яна прайшла школу Гарэцкага. Машара, Васілёк і іншыя таленавітыя паэты, што вырасьлі зь сялян, як-бы змагаліся з формай вершаў, бо ня ведалі, у якую форму ўціснуць свае

арыгінальныя думкі. У таго хлапца быў іншы спосаб вершаваньня, недзе Ясенеўска—Маякоўскі стыль. Але я ўжо пра гэта пазьней даведаўся, а ў той вечар усе мы былі ў захапленьні ад вершаў маладога чалавека. Нам падабаўся той новы струмень, які ён мог унесьці ў нашую літаратуру.

Так я пазнаёміўся з паэтам Максімам Танкам. Пазьней ён часта прыходзіў да нас. чытаў свае вершы. Танк стаў друкавацца ў «Калосьсях». А сваю паэму «Нарач» ён так асьцярожна друкаваў у розных выданьнях, што калі выдаў свой твор у друкарні імя Ф.Скарыны поўнасьцю, цэнзура нават не канфіскавала яго, бо ў кнізе былі пазначаны, падцэнзурныя выданьні, дзе друкаваліся ўрыўкі паэмы. Усыплёная цэнзўра, відаць, больш і не перачытвала паэму. Таму яна і пазьбегла канфіскацыі, столь частай у тыя часы.

Як я ўжо казаў, паэтычны стыль Танка вельмі адрозьніваўся ад стылю іншых паэтаў. Танк у свой час начытаўся Ясеніна, якога лёгка было палюбіць за ягоны стых, а таксама Маякоўскага, які стварыў сваю, непадобную ні на кога, вершаваную манэру. Пазьней Максім Танк даваў мне чытаць кнігу Маякоўскага «Как делать стихи», якую беларускі паэт, мажліва, лічыў сваёй настольнай кнігай. Гэтае захапленьне яму не пашкодзіла, а дало штуршок для далейшага разьвіцьця.

Максім Танк нарадзіўся паэтам. На жаль, палітыка хутчэй сапсавала яго, чым дала яму мажлівасьць далей разьвіваць свой талент. У Заходняй Беларусі ён быў вялікім паэтам, творчасьцю якога захаплялася беларуская моладзь. Пасьля першай савецкай акупацыі ён неяк спаткаўся зь Я. Станкевічам, які працаваў настаўнікам у польскай школе.

—Як справы, што пішаш? — запытаўся пасьля доўгай разлукі Янка Станкевіч.

— Што пішу?— зь нейкай насьмешкай перапытася Танк. — Пішу, што можна надрукаваць. Сталіну верш трэба напісаць — напісаў. Пра калектывізацыю трэба напісаць — напісаў.

Але, як расказваў потым Янка Станкевіч, не выглядала, што ён быў моцным энтузіястам новага ладу жыцьця. Танк, па натуры быў барацьбітом, і ён лепей чуўся там, дзе трэба змагацца, а не гладзіць па шэрстцы. Хвалёная савецкая ўлада адразу ўзяла яго ў ярмо. Вось і выходзіла, што ў Савецкай Беларусі, ён ня рос як паэт, а больш прыстасоўвася. Такая ацэнка ягонай творчасьці была тут, на Захадзе.

Я гляджу на фатаздымкі таго часу. Шчасьлівыя, маладыя сябры. Наперадзе ўсё жыцьцё. Пасьля яны яшчэ будуць спатыкацца ў Беларускім Студэнцкім Саюзе, у музэі Івана Луцкевіча, на літаратурных зборках і вечарах. Але нядоўга. Гісторыя разьдзеліць іхнія шляхі назаўсёды. Адзін апынецца на далёкім Захадзе і будзе пісаць творы, у якіх раскрываць фальш сацыялістычнай сыстэмы. Другі стане крытыкаваць «загніваючы» Захад і выхваляць шчасьце людзей пры савецкім ладзе жыцьця. І ўжо нічога больш ня зможа зноў аб'яднаць іх, зрабіць былымі сябрамі. За выняткам, праўда, аднаго. Успамінаў аб той гарачай юнацкай веры і надзеі, што сваё жыцьцё яны прысьвецяць на карысьць любай Бацькаўшчыне.

Кожны зь іх пайшоў сваім шляхам.



# З ЖЫЦЬЦЯ ЭМІГРАЦЫІ

## Сустрэча з Бацькаўшчнай

34 беларусаў Амэрыкі ў жаркія жнівенскія дні наведалі Беларусь. З Кліўленду, Дэтройту, Нью Ёрку, Саўт Рывэру, Нью Брансьвіку ехалі яны, каб пабачыць родную родныя мясьціны і сваіх сваякоў. Для некаторых з іх гэта была ня першая паездка ў Беларусь. Так, арганізатар гэтай паездкі Сяргей Карніловіч ехаў ужо 4 раз, Кастусь Калоша — другі, а Валянтына Яцэвіч другі раз ў гэтым годзе. Аднак для пераважнай колькасьці групы гэта была першая сустрэча з Бацькаўшчнай.

Менск, Жыровіцы, Полацак, Віцебск, Вільня—вось далёка няпоўны маршрут удзельнікаў гэтай паездкі. І ў кожным горадзе незабыўны прыем, сустрэчы з суайчыньнікамі, якія будуць помніцца ўсё жыцьцё. У наступным нумары часопіса, калі вернуцца ўсе ўдзельнікі гэтай незвычайнай паездкі, мы раскажам больш падрабязна аб іх падарожжы А пакуль паглядзіце на гэты здымак. Маленькі адбітачак незабыўнай сустрэчы з Бацькаўшчынай.



У час наведваньня Віцебску

## 50 гадоў сьвятарскай дзейнасьці

мітрафорнага пратаярэя Аляксандра Раданковіча споўнілася 2 жніўня. У гэты дзень ў царкве Жыровіцкае Божае Маці адбылася літургія, якую служылі айцы Аляксандр Раданковіч, Міхась Страпко, Якуб Пірута. Пасьля яе юбілера прывітаў пратаярэй Міхась Страпко, які павіншаваў, пажаў яму, каб і далей самаадана служыў Богу і сэрбскаму народу.

Рэдакцыя часопіса «Полацак» таксама вітае а.Аляксандра з гэтым юбілеем і жадае яму крэпкага здароўя, посьпехаў у сьвятарскай дзейнасьці і ўсяго найлепшага.

## Перад Днем незалежнасьці

21 жніўня ў культурна-асьветніцкім цэнтры «Полацак» адбылася сустрэча кліўлендцаў з старшынёй Менскага культурна-асьветніцкага клюбу «Спадчына» Анатолем Белым і беларускім бардам зь Віцебшчыны Алесям Малюжанцам.

На пачатку сустрэчы старшыня цэнтру «Полацак» Янка Ханенка прывітаў гасьцей: выкладчыцу музыкі Менскага пэдагагічнага вучылішча № 1 Алу Белую, старшыню клюбу «Спадчына» Анатоля Белага, барда Алеся Малюжанца і сваяка Сяргея і Славіка Карніловічаў Мікалая Кішэню. Затым старшыня перадаў слова сп. Анатолю Беламу.

Анатоль Белы расказаў пра сучаснае грамадзкае і палітычнае жыцьцё ў Беларусі, паінфармаваў аб падрыхтоўцы Сустрэчы Беларусаў, якая мае адбыцца ў 1993 годзе ў Менску. Пасьля невялікага дакладу адбыўся канцэрт, які па майстэрску правёў Алесь Малюжанец. Ён выканаў вянок вясельных народных беларускіх песень, найграў задорныя мэлёдыі беларускіх танцаў, вясёлыя прыпеўкі, прасьпяваў і некаторыя з сваіх песьняў: «Беларусь мая», «Хвіліна маўчаньня», куплеты, прысьвечаныя аднавяскоўцам, таргуноўцам. Пасьля канцэрта адбыўся канцэрт па заяўкам слухачоў. Які закончыўся позна вечарам.

Застаецца дадаць, што гэтую цікавую сустрэчу поўнасьцю засьняў на плёнку Міхась Калядка.

## Прыняцьцё прысягі амэрыканскім амбасадарам для Беларусі

25 жніўня, у дзень першай гадавіны абвешчаньня незалеженасьці Рэспублікі Беларусь, новапрызначаны амэрыканскі амбасадар для Беларусі Дэвод Суорц прыняў прысягу і гэтым самым стаў найвышэйшым прадстаўніком Злучаных Штатаў Амэрыкі на нашай Бацькаўшчыне.

Прыняцьцё прысягі адбылося ў прыгожа ўдэкараванай залі Бэнджаміна Франкліна ў Дзяржаўным Дэпартамэнце ў Вашынгтоне.

На ўрачыстасьці прысутнічалі амэрыканскія дыпляматы, прадстаўнікі дыпляматычнага

корпусу ў Вашынгтоне, працаўнікі Дзяржаўнага Дэпартамэнту ды блізкія сваякі амэрыканскага дыплямата. Рэспубліку Беларусь рэпрэзэнтаваў беларускі консул Міхал Хвастоў, заступнік часова паверанага ў справах Беларусі ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Ад беларусаў Амэрыкі на гэтую гістарычную ўрачыстасьць былі запрошаныя старшыня Беларускага Кангрэсовага Камітэту Амэрыкі сп. Расьціслаў Завістовіч і сп-ня Іраіда Завістовіч.



На здымку: Расьціслаў Завістовіч віншуе Дэвіда Суорца з прыняцьцём прысягі.

У сваіх прамовах сп. Суорц і ягоны калішні непасрэдны начальнік, генэральны інспэктар Дзяржаўнага Дэпартамэнту Шэрман Фанк, вельмі цёпла гаварылі пра Беларусь, беларускі народ і пра тыя павольныя, але канкрэтныя крокі, якія Беларусь праводзіць у галіне раззбраеньня й дэмакратызацыі грамадзтва. Спадар Суорц належыць да дыпляматаў прафэсыяналаў. Ён тры гады працаваў пры амэрыканскай амбасадзе ў Маскве, столькі-ж часу быў на дыпляматычнай працы ў Варшаве і два гады ў Кіеве .Перад тым ён быў дэканам інстытуту замежных моваў пры Дзяржаўным Дэпартамэнце. Сп.Суорц ведае расейскую, польскую й украінскую мовы, а цяпер спадзяецца авалодаць і беларускай. У яго двое дарослых дзяцей—сын і дачка. Спадарыня Суорц, якая зрабіла на ўсіх вельмі мілае ўражаньне, працуе сьвятаром мэтадысцкай царквы.

5 верасьня Суорцы адлятаюць у Менск, дзе новы амбасадар перад ягоным зацьверджаньнем ў сэнацкім камітэце па замежных справах працаваў некалькі месяцаў у гэтым годзе часова паверанным у справе ЗША ў Беларусі. Р.З.



На здымку: Сяброўская размова пасьля прысягі (зьлева направа): Міхал Хвастоў, Іраіда Завістовіч, Дэвід Суорц і Расьціслаў Завістовіч.

# To all to whom these Presents Shall Come, Greeting:

**Whereas**, a CERTIFICATE, duly signed and acknowledged, has been filed in the Office of the Secretary of State on the 23rd day of October A.D. 1941 for the organization of the
WHITE-RUSSIAN AMERICAN NATIONAL COUNCIL

under and in accordance with the provisions of "AN ACT CONCERNING CORPORATIONS" approved April 18 1872 and in force July 1 1872 and all acts amendatory thereof, a copy of which certificate is hereto attached:

**Now Therefore**, I, EDWARD J. HUGHES, Secretary of State of the State of Illinois, by virtue of the powers and duties vested in me by law, do hereby certify that the said
WHITE-RUSSIAN AMERICAN NATIONAL COUNCIL

is a legally organized Corporation under the laws of this State.

**In Testimony Whereof**, I hereto set my hand, and cause to be affixed the Great Seal of the State of Illinois. Done at the City of Springfield this 23rd day of October A.D. 1941 and of the Independence of the United States the one hundred and 66th.

Edward J. Hughes
SECRETARY OF STATE.




ъведчаньне аб рэгістрацыі Беларуска-Амэрыканскай Рады для штату Ілінойс з галоўнай кватэрай у Чыкага

